рых элементаў з іншых дыялектаў. Такая блізкасць дазваляла лёгка адаптаваць нямецкія імёны да вымаўлення ідыш.

«Звярыныя» імёны герояў твораў *Ber* (ME, OG), *Lejb* (ME), *Hersz* (ME) — гэта сімвалы сыноў патрыярха Іакава. У сваім перадсмяротным благаславенні Іакаў параўноўвае Іуду з маладым ільвом, Неффаліма — са стройнай сарнай, Веньяміна — з ваўком, Іссахару — з аслом за яго працавітасць [4, с. 52]. Апошняя сімвалічная мянушка з цягам часу была заменена на мядзведзь таму, што слова асёл часта выкарыстоўваецца таксама для абазначэння дурня [9, с. 251]. Гэтыя сімвалы былі перакладзены на ідыш, і так узніклі такія яўрэйскія імёны, як *Lejb* (леў), *Hersz* (алень), *Ber* (мядзведзь), *Wolf* (воўк) (апошняе ў аналізаваных творах не сустракаецца).

*Lejba* (DK) — варыянт ад мужчынскага імя *Lejb* ʽлеў’. Імя маленькага беднага яўрэйскага хлопчыка ў рамане — *Lejbele* (ME) утворана пры дапамозе суфікса ідыш *-el* (Эліза Ажэшка ў сваіх творах заўсёды называла дзяцей памяншальна-ласкальнымі імёнамі).

Імя старога яўрэя ў навеле *«Крэсівы»* выступае толькі ў гіпакарыстычных формах *Berek*, *Berko* (OG) са славянскімі фармантамі -*ek*, -*ko*.

У творах сустракаюцца і жаночыя імёны на ідыш: *Gołda* (ME) (ням. *Gold* — ‘золата’), *Jenta* (ME, DK) (ням. *Ente* — ‘качка’), *Frejda* (ME) (ням. Freude — ‘радасць’), *Liba* (SS) — (ням. *Liebe* ʽкаханая’).

У творах, прысвечаных яўрэйскай тэматыцы, Эліза Ажэшка выкарыстала як біблейскія, так і небіблейскія яўрэйскія імёны рознага паходжання (пераважаюць сярод іх біблейскія імёны стараяўрэйскага паходжання), імёны як у поўнай, так і ў гіпакарыстычнай форме (выкарыстоўваюцца гіпакарыстычныя формы імёнаў са славянскімі фармантамі *-ek*, *-ko*, *-ka*, а таксама сустракаюцца гутарковыя формы з суфіксам ідыш -*el*). Імёны дзяцей выступаюць толькі ў гіпакарыстычнай форме.

Яўрэйскія імёны ў творах Элізы Ажэшкі з’яўляюцца важным элементам лексічнай сістэмы пісьменніцы і выконваюць вызначальную ролю не толькі для ідэнтыфікацыі літаратурных персанажаў, а і ў стварэнні мастацкіх вобразаў, раскрыцці аўтарскага разумення твора. Адпаведнасць уласнага імя вобразу літаратурнага персанажа — выразны мастацкі сродак у шматлікіх творах пісьменніцы. Эліза Ажэшка заўсёды дыферэнцыявала ва ўжыванні імёны прадстаўнікоў самых розных сацыяльных груп насельніцтва і нацыянальнасцей.

Шырока прадстаўлены ў творах Элізы Ажэшкі яўрэйскія прозвішчы. Да канца XVIII стагоддзя ў яўрэяў усходняй і цэнтральнай Еўропы не было спадчынных прозвішчаў. Замест гэтага яны

карысталіся спалучэннем імя з назвай месца службы ці нараджэння, гэтыя спалучэнні маглі ўдакладняцца дабаўленнем бацькоўскага імя з папярэднім словам ben альбо bar — «сын» у рэлігійных і афіцыйных дакументах. З 1797 года ў Аўстрыі, з 1807–1834 гадоў у некаторых раёнах Германіі, а з 1845 года — у Расіі яўрэі вымушаны былі выбраць ці прыняць спадчынныя прозвішчы. Як выбраныя, так і прынятыя яўрэямі прозвішчы маглі змяшчаць у сабе розныя моўныя элементы: стараяўрэйскія, нямецкія, з ідыш, са славянскіх моў. Часцей з элементаў розных моў утвараліся гібрыдныя прозвішчы — яўрэйскія з канчаткамі ідыш, нямецкімі ці славянскімі, прозвішчы на ідыш ці нямецкія са славянскімі канчаткамі, славянскія прозвішчы з канчаткамі ідыш ці нямецкімі [12, с. 255].

У аналізаваных мастацкіх творах можна выдзяліць наступныя спецыфічныя мадэлі прозвішчаў, уласцівых яўрэйскай антрапаніміцы, якія выкарыстала Эліза Ажэшка:

* Патранімічныя прозвішчы — гэта ўсе прозвішчы, утвораныя ад мужчынскіх імёнаў. У якасці прозвішчаў без дабаўлення патранімічных суфіксаў выкарыстоўваюцца як некаторыя біблейскія імёны, так і імёны, якія ўзыходзяць да іншых замежных моў. У рамане *«Меір Эзафовіч»* гэта прозвішча багатага, вядомага ў горадзе яўрэя — Dawid *Kalman* (МЕ) (ад яўрэйскага імя Калмен, якое ў сваю чаргу ўтворана ад грэчаскага імя Каланімас [8, с. 265]), а таксама прозвішча *Todros* (МЕ) (прозвішча мелі прадстаўнікі вядомага сярод яўрэяў роду: Неемія Тодрас, Нохім Тодрас, Борух Тодрас, Ісаак Тодрас). Прозвішча *Todros* паходзіць ад яўрэйскага імя *Todres*, якое ўзыходзіць да грэчаскага імя *Teodor* (ад грэчаскага *Theodoros*, *theos* — ‘Бог’ и *dōron* — ‘дар’ [2, с. 429]).

Часцей пры ўтварэнні прозвішча да стараяўрэйскіх імёнаў дадаваліся славянскія патранімічныя суфіксы *-оў*, *-ін*, *-овіч*, *-евіч*. У рамане *«Меір Эзафовіч»* гэта прозвішча вядомага яўрэйскага роду *Ezofowicz* (Michał Ezofowicz, Hersz Ezofowicz, Saul Ezofowicz, Meir Ezofowicz). Прозвішча ўтворана ад біблейскага імя стараяўрэйскага паходжання *Iōsēf* — ‘Ён, г. зн. Бог, павялічыць, дабавіць’ [2, с. 408]. Натарыус *Ickiewicz* з апавядання *«Зефірэк»* носіць прозвішча, якое паходзіць ад гіпакарыстыка *Icko*, якое ў сваю чаргу ўтворана ад біблейскага імя стараяўрэйскага паходжання *Icchak* [2, с. 405].

* Прозвішчы, утвораныя ад геаграфічных назваў. Звычайна яўрэі жывуць не ў тых мясцінах, ад якіх утвораны іх прозвішчы, што адпавядае агульнай тэндэнцыі: прозвішча павінна нейкім чынам вылучаць яго носьбіта сярод насельніцтва. Такія прозвішчы ўказваюць на месца нараджэння ці паходжання:

а) прозвішчы, утвораныя пры дапамозе суфікса *-ер* ад назваў гарадоў і мястэчак, якія звычайна абазначаюць выхадцаў з дадзеных населеных пунктаў. У рамане *«Меір Эзафовіч»* Jankiel *Kamionker* (ME) (гаспадар заезнага дома, займаў высокую пасаду ў кагале) носіць прозвішча, утворанае ад геаграфічнага пункта *Kamionka* (Каменка) (у канцы XIX стагоддзя на тэрыторыі Беларусі і Польшчы было некалькі населеных пунктаў з такой назвай, адзін з іх знаходзіўся недалёка ад горада Гродна [11, с. 777]);

б) прозвішчы на *-скі/-цкі* ўтвораны, як правіла, ад назваў больш значных геаграфічных пунктаў у параўнанні з прозвішчамі на *-ер*. Знатны купец у рамане мае прозвішча Eli *Witebski* (ME) (прозвішча ўтворана ад назвы горада Віцебск). Такія прозвішчы былі ўтвораны па ўзору славянскіх адтапанімічных прозвішчаў (напрыклад, Ян з Баранова — Бараноўскі, аднак трэба зазначыць, што часам цяжка дакладна акрэсліць у такіх выпадках, адкуль пайшло прозвішча: ад айконіма ці ад антрапоніма).

* Багатыя яўрэі атрымлівалі складаныя прозвішчы, якія прыгожа гучалі, узніклі яны на базе нямецкай мовы (ідыш). Так, у навеле *«Магутны Самсон»* купец мае прозвішча *Rozendorf* (SS) (*Rosen*— ʻружавыʼ, *dorf* ʻвёскаʼ). Кіраўнік гасцініцы ў навеле *«Прывіды»* носіць прозвішча *Rozenblatt* (*Rosen* ʻружавыʼ, *blatt* ʻкарткаʼ). Часам яўрэі, каб захаваць не толькі сваё багацце, але і жыццё (вядома, што адносіны да яўрэяў часта былі непрыязнымі), вымушаны былі адракацца ад сваіх каранёў, пераходзіць у хрысціянства, пры гэтым яны атрымоўвалі і іншыя, хрысціянскія імёны. Гэты факт знайшоў адлюстраванне ў навеле *«Прывіды»*, дзе Эліза Ажэшка зазначае: «Kierownik hotelu, pan *Leonid Igorowicz* (czytaj: *Lejba*, syn *Icka*) Rozenblatt…» [7, с. 271]. Яўрэйскае прозвішча пры гэтым захавалася, а новыя імя і імя па-бацьку пачынаюцца з такіх жа літар, як і сапраўдныя, першапачатковыя імёны. Трэба, аднак, зазначыць, што для яўрэйскай антрапанімічнай сістэмы, таксама як для польскай і іншых еўрапейскіх сістэмаў, неўласцівым з'яўляецца імя па-бацьку.

Трэба падкрэсліць, што ў аналізаваных творах Эліза Ажэшка надала прозвішчы толькі тым яўрэям, якія выдзяляюцца сярод іншых сваім сацыяльным статусам.

Пісьменніца прадставіла ў аналізаваных творах рэальную яўрэйскую антрапаніміку: імёны і прозвішчы. Пісьменніца-рэалістка выбрала для сваіх герояў найбольш характэрныя яўрэйскія імёны, большая частка якіх выкарыстоўваецца толькі ў асяроддзі яўрэяў, а таксама тыпова яўрэйскія прозвішчы. Усе аналізаваныя антрапонімы ўказваюць не толькі на глыбокія веды Элізы Ажэшкі, але і на вялікую павагу пісьменніцы да традыцый яўрэйскага народа, што дапамагло стварыць яркія, запамінальныя творы.

Усе аналізаваныя антрапонімы выконваюць у творах Элізы Ажэшкі акрамя намінацыйна-ідэнтыфікуючай і сацыялагічную функцыю: указваюць на нацыянальнасць герояў і іх сацыяльнае становішча. Пісьменніца заўсёды вельмі дбала аб рэалізме сваіх твораў.

## Спіс скарачэнняў:

ME — прыклад з: Orzeszkowa E. Meir Ezofowicz
EM — прыклад з: Orzeszkowa E. Eli Makower
MR — прыклад з: Orzeszkowa E. Mirtala
SS — прыклад з: Orzeszkowa E. Silny Samson
DK — прыклад з: Orzeszkowa E. Daj kwiatek
OG — прыклад з: Orzeszkowa E. Ogniwa
GE — прыклад з: Orzeszkowa E. Gedali
RO — прыклад з: Orzeszkowa E. Rotszyldówna

## Спіс літаратуры:

1. Abramowicz, Z. Imiennictwo Żydów białostockich a zjawisko interferencji językowej / Z. Abramowicz // Systemy onomastyczne w słowiańskich gwarach mieszanych i przejściowych. Rozprawy Slawistyczne 7. — Lublin, 1993. — S. 9–23.
2. Abramowicz, Z. Imiona chestne białostoczan w aspekcie socjolingwistycznym (lata 1885–1985) / Z. Abramowicz. — Białystok, 1993.
3. Altbauer, M. Dublety imion biblijnych w polszczyźnie / M. Altbauer // Onomastica. — 1965. — X. — S. 196–204.
4. Библия: Книги священного писания Ветхого и Нового Завета. — Минск, 1990.
5. Detko, J. Eliza Orzeszkowa / J. Detko. — Warszawa, 1971.
6. Orzeszkowa, E. Meir Ezofowicz / E. Orzeszkowa. — Warszawa, 1954.
7. Orzeszkowa, E. Z różnych sfer. Tom III / E. Orzeszkowa. — Warszawa, 1949.
8. Приблуда, А.С. Еврейская антропонимика и ее особенности / А.С. Приблуда // Onomastica. — 1978. — XXIII. — S. 257–271.
9. Приблуда, А.С. Этюды из области еврейской антропонимики / А.С. Приблуда // Onomastica. — 1975. — XX. — S. 241–251.
10. Rymut, K. Ze studiów nad nazwami osobowymi Żydów polskich: Mojżesz-Mojsiej — mosiek / K. Rymut // Kontakty językowe

polszczyzny na pograniczu wschodnim. — Warszawa, 2000. — S. 209–216.
11. Słownik geograficzny Królestwa Polskiego i innych krajów słowiańskich: w 15 t. / pod red. F. Sulimierskiego, B. Chlebowskiego, W. Walewskiego. — Warszawa, 1880–1900. — T. III: H-Kęp.
12. Унбегаун, Б. О. Русские фамилии / Б. О. Унбегаун. — Москва, 1989.

*Anna KIEŻUŃ*
*(Białystok)*

# TĘSKNOTA DO WIECZNOŚCI. *AD ASTRA. DWUGŁOS* ELIZY ORZESZKOWEJ I JULIUSZA ROMSKIEGO

Powieść zatytułowaną *Ad astra* Eliza Orzeszkowa pisała w latach 1899–1902 wspólnie z Tadeuszem Garbowskim (pseud. Juliusz Romski) — przyrodnikiem i filozofem, docentem Uniwersytetu Jagiellońskiego. Utwór ukazywał się w «Bibliotece Warszawskiej» w okresie 1902–1903, a następnie został osobno wydany w Warszawie 1904 r. Inicjatywa współpracy nad tym szczególnym dziełem, zaliczanym do późnej twórczości autorki *Nad Niemnem*, wyszła ze strony Garbowskiego; pisarza — amatora, młodszego od sławnej już grodzieńskiej powieściopisarki o blisko trzydzieści lat, tyleż utalentowanego, błyskotliwego, co ambitnego uczonego, który wśród rozrzutnych zainteresowań wykazywał niemałe talenty artystyczne.

To właśnie on, po lekturze *Dwóch biegunów* (1893) i *Melancholików* (1896), zgłosił listownie śmiałą propozycję pracy nad książką, łączącą — jak pisał do znakomitej pisarki — «dwa żywioły»; «popiół naukowych analiz …piołun zwątpień» oraz « miód mądrego i ciepłego serca i cichy balsam życiowego doświadczenia». «Ja zajmę biegun księżycowo ognisty, Pani będzie stroną pogodną, mleczną, promienną» [3, s. 493] — kurtuazyjnie, acz stanowczo zachęcał autorkę *Dwóch biegunów* do szczególnego pisarskiego przedsięwzięcia — intrygujący nadawca listu, podpisujący się pseudonimem… Leon Płoszowski.

Tym samym Garbowski — niebawem zaprzyjaźniony z grodzieńską pisarką (spotkali się w 1899 r. w Szwajcarii) —dokonywał niewinnej mistyfikacji w konwencji dowcipnej zabawy, niejako odsłaniając duchowe pokrewieństwo z powszechnie znanym, dekadenckim bohaterem «bez teki» z powieści *Bez dogmatu* H. Sienkiewicza.

Decydując się na ten literacki podpis, nadawca listu do Orzeszkowej zapewne też rozmyślnie przyjął gest prowokacji. Wszakże — rzecz traktując w skrócie i uproszczeniu — mogła wciąż drażnić Sienkiewiczowska postać sybaryty i relatywisty bez ideałów, który przefilozofował swoje szanse na spełnione życie.

Garbowski — już na wstępie deklarujący niejako «od wewnątrz» znajomość kosmopolitycznej atmosfery zwątpienia i niewiary schyłku wieku XIX, potraktował Płoszowskiego jako literacką postać kluczową dla powstania *Dwóch biegunów*. I znów jeśli odwołamy się do powszechnego w swoim czasie stereotypowego ujęcia bohatera Zdzisława Granowskiego z powieści Orzeszkowej — chętnie też konfrontowanej z dziełem Sienkiewicza *Bez dogmatu* — to okazuje się, że ta męska postać byłaby pokrewna Płoszowskiemu i jako taka wykreślona przez główną bohaterkę — cieszącą się sympatią pisarki Sewerynę Zdrojowską — z jej życia osobistego. Odtąd, tj. od chwili odtrącenia uwodzicielskiego «straceńca» (określenie Micińskiego), opowiedziany los kobiecy wypełnia szczelnie codzienna praca i poświęcenie dla dobrobytu społeczności wiejskiej w rodzinnym majątku Krasowce, położonym na skraju Puszczy Białowieskiej. Autorka powieści, polemicznej wobec uwodzącego współczesnych uroku kultury przesytu i znużenia pod wpływem doznawanego «rozpadu wartości», zdążyła już przyzwyczaić swoich czytelników do tego, iż w kolejnych utworach nie zapominała o umieszczeniu właściwie karykatur dekadentów, dostrzeżonych w lokalnych środowiskach.

Seweryna Zdrojowska, pozytywna bohaterka *Dwóch biegunów* — powieści chętnie wpisanej w nazbyt schematyczny odbiór czytelniczy: z jednej strony kosmopolityzm, lenistwo, płycizna intelektualna, bezwolność, z drugiej — głębia wewnętrzna, wrażliwość etyczna, heroizm obowiązku, staje w *Ad astra* wobec kolejnego wyzwania, jakie nadchodzi wraz z pojawieniem się listownych spotkań z Tadeuszem Rodowskim; odległym krewnym, ale też, co istotne, europejskim uczonym, scjentystą, empirystą, myślicielem, salonowcem i estetą, a może przede wszystkim … dekadentem. Kolejny męski bohater powieści o dalszych losach samotnej panny z Krasowiec, jest — warto zaryzykować już na wstępie propozycję klasyfikacji postaci kreowanej przeważnie przez Garbowskiego — typem schyłkowca, uwzględniającego w swych myślach i przeżyciach dylematy światopoglądowe dekadenckiego modernizmu.

Wydaje się, że dzięki faktycznemu dwugłosowi w *Ad astra*, literacki portret dekadenta ulega pogłębieniu, skomplikowaniu i wyrafinowaniu oraz może być odbierany bardzo serio jako autentyczny wyraz kryzysu kultury przełomu wieków XIX i XX, a dzięki swoim cechom filozoficzno — poetyckim dołącza do szeregu znakomitych

«spowiedzi» fin — de — siecle`u. Patrząc z tej perspektywy interpretacyjnej trudno zadowolić się w zupełności nowszymi, wielce przecież erudycyjnymi odczytaniami *Ad astra*, w których jednak chyba nie docenia się kulturowego znaczenia zjawiska dekadentyzmu: «Partie Garbowskiego — Rodowskiego wypełniają typowe *cliches* modernizmu: znużenie, przesyt, apatia, ironia i poczucie wyższości… dystansuje się jednak od pospolitej mody dekadenckiej…» [5, s. 279]. W korespondencji Garbowskiego znaleźć można początkowe założenia wspólnej książki, które dawały szansę na szczerość kreacji męskiej postaci w sensie przystawalności do wymiarów ówczesnych zmagań duchowych. «Zresztą, otwierając się przed nią psychicznie, oddaję się Jej niejako za przedmiot studium. Czcigodna współautorka pracowałaby tedy nad dziełem prawie własnym, a tym tylko różnym od innych, że **bohater sam za siebie myśli i czuje»** (podkr. — *A. K.*) [3, s. 494–495]. W ten sposób nadarzający się literacki współpracownik Orzeszkowej oferował fikcyjnej postaci treści osobistych doświadczeń, zawierające refleksy przeżywanego zmierzchu kultury.

Podobnie się działo z pisarką, która szczodrze spożytkowała swoją dojrzałość życiową w poprowadzeniu postaci Seweryny, obdarzając ją ponadto różnymi odcieniami lęku egzystencjalnego, który w miarę wkraczania w schyłek życia coraz natarczywiej doskwierał. Nie powinny zatem dziwić jej wątpliwości zgłaszane w listach do Garbowskiego: «Indywidualny nastrój mój nie jest wcale optymistycznym, daleką jestem od pogody i spokoju…. Więc trudno by mi było przez długość książki roztaczać białe i rzeźwiące skrzydła Anioła pociechy» [3, s. 495]. Początkowa wzajemna fascynacja i nade wszystko pokusa dialogu dotyczącego spraw istotnych i jedynych, zwyciężyły i zaowocowały w postaci rozlewnych, choć także podlegających zmianom tonacji uczuciowej, powieściowych listów dwójki bohaterów. I trzeba przyjąć stwierdzenie prosto sformułowane, choć naprowadzające na złożone indywidualne myśli i przeżycia, dramatycznie rozgrywające się w utworze: «Fingowany dwugłos Seweryny Zdrojowskiej i Tadeusza Rodowskiego skrywa oczywiście autorskie głosy Orzeszkowej i Tadeusza Garbowskiego» [5, s. 278].

Czego one dotyczą? W powieściowych listach wymieniane są poglądy na współczesność, życie, byt, wszechświat, naturę i człowieka, materię i idee, sens i koniec ludzkiej egzystencji. A zatem ambicje światopoglądowego «dwugłosu» Orzeszkowej i Garbowskiego były dużej miary. Zrealizowane z rozmachem w kolejnych partiach listownej wymiany konfesyjnych zwierzeń bohaterów *Ad astra*, które śmiało uzupełniają obraz ciężkiej atmosfery bankructwa wartości i idei w wyniku kryzysu pozytywistyczno — naturalistycznego światopoglądu, dezintegracji wewnętrznej człowieka, efektownie zdiagnozowanej przez

Nietzschego, autora *Jutrzenki*; iście Kierkegardowskiego «zrozpaczenia» ludzkiej istoty i, choćby utajonej, chęci wyrwania się z przypadkowości ziemskiego istnienia, czy rozpoznanych w aurze smutku i zniechęcenia deterministycznych wyznaczników jednostkowego losu, chęci — wyrażonej w **tęsknocie do wieczności**. Z tej perspektywy nie dywagacji (jak chcą ci, którzy trochę deprecjonują «dialogi» Seweryny i Tadeusza), lecz głównych problemów epoki przełomu modernistycznego, może w pełni docenić *Ad astra* czytelnik, zwłaszcza licznych «spowiedzi wieku» pokolenia przejściowego. Bo chociaż Orzeszkowa, w przeciwieństwie do młodych twórców literatury, niełatwo deklarowała pragnienie poznania przekraczającego horyzonty świata materialnego, to przecież w jej późnej prozie upominają się «prawdy wiekuiste i boskie», których wyglądał choćby Miciński, próbując po młodopolsku przezwyciężyć antynomię wolności i konieczności. To do jego generacji artystycznej odnosi się konstatacja, przydatna w jakiejś mierze do wejrzenia we wzajemne wyznania korespondentów w *Ad astra*. — «Uwięzienie we własnych myślach, które nie mogą przeniknąć tajemnicy, nie zawsze jest bierne: związana z anamnezą <tęsknota>, jedno ze słów-kluczy epoki, ciągle zachęca do wysiłków poznawczych» [7, s. 27].

To właśnie w przypomnianej tutaj powieści epistolarnej, powstałej na początku XX w., kiedy to w literaturze polskiej młodsza generacja wobec Orzeszkowej (nb. wnikliwej krytyczki modernistycznego przesilenia [10]) wypowiedziała się w najwybitniejszych tekstach, jak — by ograniczyć wyliczenie do roku około 1900 — *Ludzie bezdomni* Żeromskiego; *Sny o potędze* Staffa, *Wesele* Wyspiańskiego 1901; *Ginącemu światu* Kasprowicza, *W mroku gwiazd* Micińskiego 1902; *Próchno* Berenta, *Pałuba* Irzykowskiego 1903, *Popioły* Żeromskiego, *Synowie ziemi* Przybyszewskiego, *Chłopi* Reymonta 1904 — pojawia się, podchwycone przez badaczy Młodej Polski (m. in. K. Wykę) — syntetyczne stwierdzenie: «W konchach serc z jękiem pękają perły. Ideały kładą się do trumien. Po trumnach szemrze deszcz łez… To czasy płaczą, te, które przeszły, nad tymi które przyjdą… » [6, s. 207]. Czyż nie w podobnym tonie zabrzmiała wypowiedź chociażby jednego z czołowych współtwórców i wnikliwych krytyków nadchodzącej epoki: «I przyszedł na nas stan, w którym ta dusza (…) tylko jęczy w sobie samotną zasklepioną nocą (…). I przyszło na nas rozbicie, jakiemu ulegają planety, gdy potrzaskane w kawały krążą ruchem wirowym wśród gwiazd (…)» [2, s. 8].

Formuła Orzeszkowej, zapożyczona przez historyków literatury polskiego modernizmu, zawierała duże walory metaforyczno — symboliczne, przemawiające do wrażliwości człowieka «momentu» znajdującego się «na przełęczy czasu» ( perła — dusza, czystość i piękno, trumna, łzy — kres, śmierć, żałoba). Miała ona też znaczenie

węższe, konkretne; odnosiła się do kryzysu wewnętrznego, jakiego doznawała Seweryna Orzeszkowej. Postać kobieca, niewątpliwe — jeszcze raz powtórzmy — bardzo ważna i bliska sędziwej pisarce, która, zdaje się, sama — wraz ze zbliżającym się kresem własnej drogi życiowej — znalazła się w owej, nieznośnej dla bohaterów *Ad astra* — «połowiczności». — Zawahania między dogmatem swej pozytywistycznej młodości, też wieloletnich, codziennych, żmudnych starań uwiarygodniających hasło <pracy u podstaw> w grodzieńskiej i podgrodzieńskiej społeczności (wystarczająco też bilansowanym), a znakami zapytania o sens i celowość jednostkowego życia w obliczu nieuchronnego końca ludzkiej egzystencji. Pisarka, podobnie jak Seweryna, wydaje się dyscyplinować następująco: «pokratkuję sobie dzień ołówkiem pracy ciasno, ciasno, aby o tym nie myśleć» [6, s. 197], ale niepokój metafizyczny w odwiecznym pytaniu: skąd? po co? dokąd? znajduje wyraz w interesującej nas twórczości ostatniego okresu.

Jako że *Ad astra* to nie tylko powieściowy dokument ówczesnych głośnych sporów aksjologiczno— epistemologicznych, też estetycznych, ale też bardzo osobisty utwór Orzeszkowej. Wśród licznych, listownych autokomentarzy znajduje się jej wyznanie (list do J. Kotarbińskiego z 7 II 1906 r.) o szczególnej roli *Ad astra*, do której wniosła: «najwięcej z osobistych wiar, dążeń i bólów » «Cała partia Seweryny jest mną. (…) Tu, prawie bezwyjątkowo, wszystko moje własne: przekonania, uczucie, męki i rozkosze» [1, s. 93]. O tym, że: «Cały tekst *Ad astra* jest takim subtelnym poetyckim przędziwem oplatającym niepokoje samotnej starości Orzeszkowej»— jest przekonana jedna z wnikliwych badaczek jej twórczości [5, s. 286], jednocześnie pośrednio jakby uprzedzając, że niełatwo rozsupłać jej sekrety.

Przypomnijmy, że *Ad astra* należy do tzw. późnej twórczości pisarki (datowanej od 1890 r. — na wyróżnienie zasługuje zwłaszcza nowelistyka *Melancholicy* 1896, *Iskry* 1898, *Chwile* 1901, *Przędze* 1903, *Gloria victis* 1910), w której wybrzmiewa pytanie o szanse realizacji jednostkowego bytu wobec grozy unicestwienia przez «czas zegarów» [9], ale też nadzieja, wsparta poszukiwaniem religii przez autorkę *Chama* (nawiązanie do tytułu szkicu S. Fity o nieortodoksyjnej wierze pisarki [1]), że za rzeczywistością utkaną z materii skrywa się świat «inny» (bliski wieczności). Bardzo trafną sugestię interpretacyjną odnajdziemy w *Moim pozytywizmie* Jana Tomkowskiego: «Bohaterom *Zrozpaczonego* i *Wielkiego* dokucza poczucie ciasnoty, poszukują bezmiaru, nęka ich **głód wieczności** (podkr. — *A. K.*). Nastroje te osiągają punkt kulminacyjny na stronicach *Ad astra*, w partiach powieści napisanych przez Orzeszkową» [8, s. 265].

O kruchości istnienia jednostkowego nieraz pisze do Rodowskiego Seweryna Zdrojowska: «to jest tylko chwila, tu na ziemi, która przeleci

jak dmuchnięcie wiatru» [6, s. 185]: «krótka fala ziemskiego czasu» [6, s. 249]. Wyraża też niepokoje związane z poczuciem znikomości istnienia własnego, w którym heroicznie pomieściła wszystkie swoje cierpienia, ofiary w imię szczytnych ideałów : «My, wróble maleńkie, skąd i dokąd lecimy? Jeżeli z ciemności jednej nikt nas po nic nie wysyła, a w ciemnościach drugich nikt umęczonych nie przyodziewa w skrzydła nowe — to co? …przeklętą jest moc tego głuchego chaosu» [6, s. 197]. Zetknięcie się ze śmiercią jednego z ostatnich współudziałowców w spełnianiu testamentu tych, co odeszli po `63 roku (ojciec, brat, towarzysze młodości), wywołuje znamienną refleksję, pod którą mogli podpisać się «najmłodsi» twórcy, ci — jak chciał widzieć ich poeta Kazimierz Przerwa— Tetmajer — ze «skrzydły złamanemi»:

«Wszystko przepływa. Wszyscy przemijamy. Cieniami jesteśmy, które płaczą po cieniach. <Gdzieśkolwiek jest, jeśliś jest, lituj mej żałości!>. Jeśliś jest? Czy jest? A jeżeli nie jest, po co był? O któż mi to powie? Nikt. Własny duch mi to mówił , pokąd miał dar wiary. A teraz na tym zapytaniu, jak na zachwianej osi chwieją się nad przepaścią wszystkie gwiazdy» [6, s. 228].

Dotkliwość przeżywania istnienia ziemskiego, przypominającego wirujący «pyłek wokół osi niemocy», pogłębia samotność bohaterki i jej wewnętrzne rozbicie. Potraktowanie serio egzystencjalnego portretu Seweryny właściwie skutecznie przyćmiewa utarte podręcznikowe ujęcie tej postaci jako heroiny postrzeganej w duchu obrony pozytywistycznej pracy i pozyskanej religii, przeciwstawiającej się też z sukcesem Rodowskiemu — bankrutującemu scjentyście i chybionemu nietzscheaniście.

Postać męska w *Ad astra* nie przypomina już, jak zaznaczyłam wcześniej, nieco karykaturalnie przejrzystych powieściowych dekadentów autorki *Nad Niemnem*. Jest ona głębszym odbiciem rozterek człowieka schyłku wszelkich wiar. We wstępie listownych spotkań Rodowski przedstawia się jako zdeklarowany metafizyk przyrody, gotowy pomóc «uświadomić jądro niektórych prawd» [6, s. 93], mocno trzymający się podstaw materialnego bytu. Jego argumenty na rzecz fizykalnej koncepcji wszechświata jako mechanizmu — sprawdzalnego z pomocą myśli racjonalisty, empirysty, statystyka — w którym człowiek ma swoje miejsce na równi z innymi organizmami, ostatecznie naruszają pozorną harmonię Seweryny; mieszkanki świata baśniowo — puszczańskiego. Ponawiany przezeń sceptycyzm wobec ideałów kobiecych, potraktowanych jako «złuda życia», jest tylko ornamentem jego myśli drążącej «przyczynę wszystkich przyczyn».

Ale i sam Rodowski staje się ofiarą swoich ambicji opartych na nauce; przekraczając kolejne horyzonty wiedzy dostrzega też swoją «ułudę» (kryzys scjentyzmu). W konsekwencji swego «nienasycenia»

poznawczego: pisze do Krasowiec: «daleko nam jeszcze do szczytu» nim «zestrzelą się, skupią wszystkie poznania i wiedze», staje Rodowski «nad przepaścią» (wśród scenerii szczytów i lodowców alpejskich), niezdolny utrzymać na dłużej nietzscheańskiego stylu, wyglądający «otchłani», w której dojrzał «ocean **wieczności** z fata morgana — istnieniem ludzkim» [6, s. 138]. Sceptyk o przenikliwym i chłonnym umyśle oraz wyrafinowanym zmyśle estetycznym, przeżywa dramatycznie kryzys egzystencji; zdiagnozowany jako «ślepy przypadek» (rozpamiętywany w refleksji modernistyczno — dekadenckiej). Świadomość pesymistycznego uwikłania człowieka przełomu w wówczas filozoficznie roztrząsaną antynomię konieczności i wolności (Tetmajera fraza: «konieczność jest wszystkiem — wola ludzka niczem»), wypełnia dramat myśli Rodowskiego. W długich wyjaśnieniach determinizmu naturalistycznego wobec życia wszelkich organizmów, w tym człowieka, pobrzmiewa rezygnacja: w «napięciu **woli** realizuje się jedna i ta sama **konieczność** (…) w nieskończoność» (podkr. — *A. K.*) [6, s. 158–159]. Pesymizm tej konstatacji Rodowski próbuje przezwyciężyć w typowy dla światopoglądu modernistycznego sposób … zdradzając swe pragnienie Absolutu: «w rozpacznej żądzy wyższego bytu i wyższej miłości ponad światem i ponad ludzkością (…)» i w tęskniącym wejrzeniu «w krainę własną, nie znającą ani czasów, ani wymiarów (…) [6, s. 159–160]. Czyż, inaczej mówiąc, nie jest to tytułowa **tęsknota do wieczności**?

Te i inne bogate spowiednicze wynurzenia korespondującego z Seweryną, są przejawem ówczesnych tendencji schyłkowych, pojawiających się w wyniku popozytywistyczno — naturalistycznego rozbicia ludzkiej «jaźni» aż po utratę jedności i tożsamości ontycznej, a w następstwie rozpoznania dekadencko — pesymistycznej koncepcji bytu ludzkiego jako przepływu stanów zrodzonych z «momentu» i «przypadku» oraz ulegających rozproszeniu pod presją materialnych ograniczeń [4]. W efekcie zapanowało powszechne poczucie niepewności i wyobcowania w świecie, z czego zdawała sobie sprawę Orzeszkowa, osobiście zresztą niewolna od tych problemów antropologiczno — aksjologicznych nadchodzącej epoki, przypadającej na schyłek jej życia.

Pamiętając o upostaciowanych «antypodach na dwu biegunach bytu», powrócić znów wypada do bohaterki kobiecej w powieści. W przeciwieństwie do Rodowskiego, Seweryna wykazuje się dzielnością w napotkanych kolejnych próbach wiary. Może dzielnością serca, które w swej niełatwej prostocie nie zatraca zdolności wychylenia się ku transcendencji? O «zachwyceniach» mieszkanki krainy puszczy, pozostającej w zazdrośnie strzeżonych granicach wszerz swego terytorium, ale sięgającej nieboskłonu, już trochę pisano. O jej przymierzu z leśną naturą, kryjącą symboliczne moce unoszące

duszę «wzwyż», wypada kiedyś napisać osobno i obszernie. Tutaj zauważmy szansę ocalenia tożsamości duchowej Seweryny, której to, paradoksalnie, pozbawiony był Rodowski. Zdobywał on dziewicze szczyty gór, ale pozostał wśród nich najpewniej turystą, a nie radosnym «wędrowcem» nietzscheańskim ku «woli mocy». Inaczej wędrowała do puszczańskich miejsc oswojonych Seweryna, ratująca w sobie ufność w platońską «Najwyższą Zasadę Dobra i Miłości w świecie». Centrum tego świata, rozszerzającego się sakralnie «wzwyż», odnajdowała w przyrodzie swej Puszczy Białowieskiej. Ona sama znajdowała tutaj poczesne miejsce wśród «współodczuwającej» roślinności i zwierząt. Obrazowe, symboliczne zespolenie postaci kobiecej i leśnej natury spotyka się często na kartach powieści. — «Suknia jej ciemną plamą kładła się na rdzawość leśnego olbrzyma, lecz twarz w rumianej smudze zachodu jaśniała młodością promienną, jak w lipcowe upały jaśnieje wśród cieni leśnych słoneczna korona arniki» [6, s. 11]. Miejscem skupienia duchowego wyrażającego «tęsknotę do wieczności» nie był bynajmniej dom, przypominający «pustkę przepaści», skąd można było zawiesić wzrok «na czarnych kolumnach modrzewi». Wsłuchiwanie się w «szum wiatru w puszczy» (głęboka symbolika objawienia) prowadziło Sewerynę «do siebie». Miejscem jej «zachwycenia» stawało się puszczańskie uroczysko, otoczone dębami — kolumnami, które «w nieśmiertelnej gonitwie dążyły w nieskończoność» [6, s. 8], «wyprężały ku niebu potężne swe wzrosty» [6, s. 294]. Dopiero wśród nich «wznoszących pod niebo hymn wzrostu i siły» [6, s. 8] Seweryna Orzeszkowej odnajduje pełnię istnienia. Triumf przyrody ojczystej autorka *Ad astra* opisała raz jeszcze, w całym bogactwie symboliki religijnej, ludowej. O tym jednak warto napisać oddzielnie.

## Literatura


1. Fita, S. Eliza Orzeszkowa w poszukiwaniu religii / S. Fita // Problematyka religijna w literaturze pozytywizmu i Młodej Polski / pod red. S. Fity. — Lublin, 1993.
2. Górski, A. Błędne dusze / A. Górski // Ateneum. — 1901. — T. I. — Z. 1.
3. Jankowski, E. Eliza Orzeszkowa / E. Jankowski. — Warszawa, 1964.
4. Kieżuń, A. Drogi własne. O młodopolskiej twórczości Artura Górskiego / A. Kieżuń. — Białystok, 2006.
5. Mazur, A. Pod znakiem Saturna. Topika melancholii w późnej twórczości Elizy Orzeszkowej / A. Mazur. — Opole, 2010.
6. Orzeszkowa, E., Romski, J. [Garbowski, T.] Ad astra. Dwugłos / E. Orzeszkowa, J. Romski. — Kraków, 2003.

7. Podraza-Kwiatkowska, M. Wolność i transcendencja. Studia i eseje o Młodej Polsce / M. Podraza-Kwiatkowska. — Kraków, 2001.
8. Tomkowski, J. Mój pozytywizm / J. Tomkowski. — Warszawa, 1993.
9. Tomkowski, J.; Mazur, A. Królestwo starych zegarów. Myślenie o czasie w późniejszych utworach Orzeszkowej / J. Tomkowski; A. Mazur // Lalka i inne. Studia w stulecie polskiej powieści realistycznej / pod red. J. Bachórza; M. Głowińskiego. — Warszawa, 1992.
10. Żmigrodzka, M. Modernizm w oczach pozytywistki / M. Żmigrodzka // Przez wieki idąca powieść. Wybór pism o literaturze XIX i XX wieku / pod. red. M. Kalinowskiej, E. Kiślak. — Warszawa, 2002.

*Вячаслаў Пятровіч РАГОЙША*
*(Мінск)*

## ЭЛІЗА АЖЭШКА І «ЛІТОЎСКІЯ АФІНЫ»

Магчыма, нехта з даследчыкаў Элізы Ажэшкі створыць у будучым карту далучэння выдатнай пісьменніцы да розных мясцін беларускай зямлі. Несумненна, на гэтай карце будзе пазначана і мястэчка Ракаў, размешчанае непадалёку ад сённяшняй сталіцы Беларусі, у цяперашнім Валожынскім раёне Мінскай вобласці.

Ракаў — старадаўняе паселішча, пра што сведчаць стаянка эпохі неаліту, курган, у якім знойдзена крамянёвая зброя, і насыпное гарадзішча («Ва́лы») у пойме ракі Іслач. У афіцыйных дакументах яно ўпамінаецца з 1440 г., мястэчкам афіцыйна стала ў 1579 г. Ракавам папераменна валодалі кароль і вялікі князь Казімір (1440–1464), Кяжгайлы, Сангушкі, Салагубы. У канцы XVII — пачатку XVIII ст. тут асталяваліся дамінікане, крыху пазней — базыльяне. Пры базыльянскім манастыры былі свая бібліятэка і архіў, друкарня, брацкая школа і шпіталь, тут знаходзілася брацтва святой Ганны, багадзельня. Тады ж у Ракаве праходзілі пасяджэнні падкаморскіх (зямельных) і гродскіх (замкавых) судоў. У 1701 г. Салагубы атрымалі ад караля Аўгуста II дазвол на правядзенне ў Ракаве двух кірмашоў у год. На рынкавай плошчы 20 мураваных крам стваралі архітэктурны квадрат, у цэнтры якога ўзвышаўся будынак ратушы, дзе размяшчалася местачковая адміністрацыя. Пасля таго, як у выніку другога падзелу Рэчы Паспалітай (1793) Ракаў увайшоў у склад Расійскай імперыі, Кацярына II падаравала яго князю Мікалаю Салтыкову. Менавіта ён у 1804 г. прадаў мястэчка разам з сялянамі і навакольнымі землямі Ваўжынцу Здзяхоўскаму.

З таго часу і ажно да верасня 1939 г. Ракавам, што ў 1921–1939 гг. знаходзіўся на самай граніцы Польшчы з СССР, валодалі Здзяхоўскія, якія славіліся на ўсю Міншчыну культурай вядзення гаспадаркі. У прыватнасці, адны з першых на Беларусі яны яшчэ ў 1896 г. наладзілі тэлефонную сувязь паміж сваім велікапанскім дваром і суседняй вёсачкай Паморшчынай (пазней злілася з Ракавам), дзе былі бровар і інтэрнат для арандатараў і найманых работнікаў. Дарэчы, у Эдмунда Здзяхоўскага (1837–1901), які ў свой час скончыў Горы-Горацкі земляробчы інстытут (вучыўся там разам з бацькам Юзафа Пілсудскага), у 1879–1881 гг. арандавалі кавалак зямлі маладажоны Дамінік і Бянігна Луцэвічы. Э. Здзяхоўскі вёў узорную гаспадарку паводле рэкамендацый тагачаснай сельскагаспадарчай навукі. Несумненна, многае з гэтых рэкамендацый засвоілі і яны, а праз іх — і сын Ясь, будучы беларускі пясняр Янка Купала, які, як вядома, да канца жыцця захаваў любоў да працы на зямлі, уменне працаваць на ёй…

Зручнае размяшчэнне Ракава (за 25 км на захад ад Мінска па шашы Мінск–Гродна–Вільня), дазвол на рынкі садзейнічалі развіццю гандлю. Вялікія радовішчы высакаякаснай чырвонай гліны паспрыялі ўзнікненню тут (яшчэ ў XVI ст.) ганчарства. З часам развіліся розныя рамёствы. Ужо ў XIX ст. Ракаў, тагачасны валасны цэнтр, славіўся на ўсю Літву-Беларусь вырабам розных ганчарных рэчаў (кафля, кухоннае начынне, дзіцячыя цацкі; у 1880 г. тут працавала ажно 16 ганчарных майстэрняў), сельскагаспадарчых машын (арфы, малатарні, крупадзёркі, сячкарні). Тут былі пабудаваны два млыны, цагельня, тартак, гарбарня, бровар (1850), створана паштова-тэлеграфнае аддзяленне (1887). У 1863 г. у Ракаве было адкрыта народнае вучылішча, куды прымаліся дзеці ўсіх саслоўяў, без адрознення веравызнання. Дарэчы, католікам Закон Божы выкладаўся ксяндзом «на мясцовым дыялекце», г. зн. на беларускай мове. У 1888 г. у Ракаўскім народным вучылішчы навучалася 88 хлопчыкаў і 18 дзяўчынак. Што да дзяцей яўрэяў (а яны ў Ракаве, як і ў іншых беларускіх мястэчках, складалі амаль палову ад усяго насельніцтва), то яны вучыліся асобна, у мясцовым хедэры. Найбольш адораныя маглі затым паступаць у вышэйшыя духоўныя вучылішчы, у прыватнасці ў недалёкую адсюль Валожынскую ешыву… У 1880-я гг. да народнага вучылішча дадаліся царкоўнапрыходская і рамесная школы. Духоўнасць мястэчка вызначалі таксама Праабражэнская царква (яна ў 1793 г. была перабудавана з уніяцкага храма), вялікі касцёл у неагатычным стылі (пабудаваны з цэглы на месцы невялікага драўлянага, асвечаны ў 1906 г.), дзве капліцы (праваслаўная і каталіцкая), сінагога. У Ра-

каве яшчэ з 1902 г. працавала асобная кнігарня з бібліятэкай для выдачы кніг дадому.

Ракаў, у адрозненне ад навакольных вёсак і нават некаторых заходнебеларускіх мястэчак, даволі інтэнсіўна рос. Так, у 1861 г. у ім налічвалася 1968 жыхароў, у 1897 г. — 3640, у 1908 г. у 740 дамах жыло ўжо 4960 чалавек. Вось такое мястэчка Ракаў у самым пачатку XX ст. наведала выдатная польская пісьменніца Эліза Ажэшка. І прыехала сюды на запрашэнне Здзяхоўскіх.

Два сыны Эдмунда Здзяхоўскага — Мар'ян (1861–1938) і Казімір (1878–1942) — засталіся ў гісторыі польскай літаратуры, у летапісе польска-беларускіх і польска-рускіх літаратурных сувязей. Абодва яны спасціглі належную хатнюю адукацыю ў Ракаве, затым скончылі Мінскую гімназію. Атрымалі ўніверсітэцкую асвету ў Расіі. Мар'ян вучыўся ў Пецярбургскім і Дэрпцкім (Тартускім) універсітэтах. Казімір скончыў Маскоўскі ўніверсітэт. Пасля пасяліўся ў спадчынным ракаўскім панскім двары, кіраваў гаспадаркай, а таксама, маючы літаратурныя здольнасці, заняўся пісьменніцкай працай. У Ракаве ён напісаў раманы «Перамены» (1906), «Зарыва» (1908), «Апора» (1912), «Крэсы» (1920), «Злачынства» (1922) і інш., у якіх адлюстраваў жыццё дробнай шляхты і сялянства на тэрыторыі былой Заходняй Беларусі. Мар'ян Здзяхоўскі выявіў сябе найперш у галіне навуковай і выкладчыцкай дзейнасці. Ён стаў прафесарам Ягелонскага, пазней — Віленскага ўніверсітэтаў, членам Польскай акадэміі ведаў, адным з заснавальнікаў кракаўскага «Славянскага клуба». Поліэтнічны і поліканфесійны Ракаў паспрыяў веданню ім некалькіх моў і культур (польскай, беларускай, рускай, у пэўнай ступені яўрэйскай), станаўленню інтэрнацыянальнага светапогляду, што праявілася ў цесных асабістых кантактах Мар'яна з прадстаўнікамі многіх славянскіх і неславянскіх культур, у тым ліку рускай (Леў Талстой, Уладзімір Спасовіч, Анатоль Чычэрын, Восіп Мандэльштам і інш.). Ён — адзін са стваральнікаў польскай русістыкі і параўнальнага літаратуразнаўства, аўтар цэлага шэрагу арыгінальных даследаванняў («Месіяністы і славянафілы», 1888; «Байран і яго век» — тт. 1–2, 1894–1897; «Адраджэнне Харватыі ў XIX ст.», 1902; «Погляды Красінскага», 1912; «Рускія ўплывы на польскую душу», 1920; «Уладыслаў Сыракомля: Літоўска-беларускі элемент у творчасці польскай», 1924; «Рэнесанс і рэвалюцыя», 1925; «Ад Пецярбурга да Ленінграда», 1934 і інш.). Мясцовыя патрыёты («ліцвіны», як яны сябе называлі), Здзяхоўскія будавалі своеасаблівы духоўны мост паміж праваслаўным Усходам і каталіцкім Захадам, Расіяй і Польшчай. І менавіта Ракаў, дзякуючы свайму геаграфічнаму размяшчэнню (на «сталбавым» шляху з Масквы — праз Мінск — на Гродна, Вільню, Варшаву), а

найперш сям'і Здзяхоўскіх (Казімір тут пастаянна жыў, а Мар'ян праводзіў ледзь не ўсе святы і працоўныя адпачынкі), стаў адной з трывалых апораў гэтага моста. Сюды на імя Мар'яна ішлі лісты ад Льва Талстога, на сустрэчу да якога ў Ясную Паляну ён ездзіў у 1896 г. (тады ж з прадмовай Л. Талстога выйшла ў Лейпцыгу рускамоўная кніга М. Здзяхоўскага «Религиозно-политические идеалы польского общества»). У сваёй ракаўскай гасподзе з яе багатай бібліятэкай, карціннай галерэяй, музычным салонам Здзяхоўскія давалі належны прытулак праезджым дзеячам расійскай і польскай культуры. Тут наладжваліся перыядычныя сустрэчы з многімі мясцовымі знанымі асобамі: кампазітарам Міхалам Грушвіцкім (жыў у Выганічах, за 4 км ад Ракава), паэтам і драматургам князем Еранімам Друцкім-Любецкім (жыў у Новым Полі, за 3 км ад Ракава), ксяндзом Аляксандрам Астрамовічам (вядомы як беларускі паэт Андрэй Зязюля; у 1911 г. служыў у ракаўскім касцёле), дэпутатамі Дзяржаўнай думы ад Міншчыны Раманам Скірмунтам, Аляксандрам Лядніцкім і інш. Зусім магчыма, што на пачатку 1920-х гг. у палацы Здзяхоўскіх бываў і вядомы пісьменнік Сяргей Пясецкі, які тады жыў у Ракаве і пазней яскрава апісаў яго ў рамане «Каханак Вялікай Мядзведзіцы» (1937). Усіх іх — гаспадароў і гасцей — яднала пачуццё «тутэйшасці», «ліцвінскасці», нягледзячы на тое, што́ яны лічылі сваёй «вялікай Радзімай» — Польшчу, Расію ці Беларусь. І мела поўную рацыю Эліза Ажэшка, калі ў свой час дасціпна і вобразна назвала Ракаў «літоўскімі Афінамі»…

Стасункі ж Элізы Ажэшкі з Міншчынай распачаліся яшчэ ў 1891–1892 гг., калі польская інтэлігенцыя Мінска, як і многіх гарадоў Рэчы Паспалітай (Варшава, Кракаў, Вільня, Львоў і інш.), адзначала 25-годдзе творчай дзейнасці пісьменніцы [гл.: 3, 157–172]. А ўсталяванне яе непасрэдных сувязей з Ракаўшчынай датуецца 12 (24) чэрвеня 1895 г., калі Казімір Здзяхоўскі высылае ліст пісьменніцы, у якім шчыра захапляецца яе «Аўстралійцам». Пачатак знаёмства быў удалы, і паступова карэспандэнцкія ўзаемаадносіны перараслі ў сяброўскія. Казімір Здзяхоўскі ў той час толькі распачынаў свой шлях у літаратуру. Таму меркаванні і заўвагі славутай гарадзенкі, да таго ж светапоглядна яму блізкай, былі для яго надзвычай істотнымі. Наогул, у архіве Ажэшкі захавалася 104 лісты К. Здзяхоўскага. Зваротных лістоў засталося няшмат, аднак і яны даюць падставу сцвярджаць, што пісьменніца высока цаніла творчасць свайго ракаўскага сябра. Так, у лісце ад 4 лістапада 1900 г. яна пісала пра адзін з яго раманаў: «…Раман "Fuimus" прынёс мне шмат радасці, за што я вельмі ўдзячна ягонаму аўтару» [1, т. IV, с. 91]. Наступныя раманы К. Здзяхоўскага («Luna», «Przemiany») таксама выклікалі значную цікавасць пісьменніцы, цытаты з іх

яна змяшчала нават у лістах да некаторых сваіх знаёмых. Пэўна, такая ўвага да творчасці ракаўскага раманіста была выклікана не столькі мастацкімі вартасцямі яго твораў, колькі блізкасцю ёй ідэйна-філасофскай пазіцыі іх аўтара. Элізе Ажэшцы імпанавала занепакоенасць К. Здзяхоўскага тым, што беларускія гарады і мястэчкі русіфікуюцца, страчваюць былую непаўторную атмасферу, а моладзь адыходзіць ад бацькоўскіх каранёў. У заняпадзе былых шляхецкіх двароў Ажэшка бачыла пагрозу традыцыйным каштоўнасцям. К. Здзяхоўскі выказваў аналагічныя меркаванні. Абаіх моцна непакоіў надыход рэвалюцыі. У адным са сваіх лістоў, датаваных 1905 г., К. Здзяхоўскі пісаў: «Тут, на Літве, канец Польшчы, польскай культуры, працы, думкі. Мы гінем у той час, калі нам якраз развязаліся рукі, калі мы маглі б распачаць дзеянне і ажыццявіць вялікія задумы… Шкада будзе (ужо не кажучы пра людзей) нашых фальваркаў, садоў і паркаў, само шляхецтва, можа грэшнае, можа занядбанае, але мілае і сваё. Добра, што гэтае шляхецтва застанецца для нашчадкаў у кнігах Пані» [1, т. II, с. 418 — каментарый].

Эліза Ажэшка была знаёмая і з іншымі членамі сям'і Здзяхоўскіх. У зборах архіва пісьменніцы захаваліся лісты маці Казіміра, Гелены, і ягонага брата Мар'яна. З Мар'янам Здзяхоўскім Ажэшку збліжала падабенства поглядаў на многія праблемы, у тым ліку рэлігійныя. М. Здзяхоўскі даследаваў творчасць пісьменніцы. У артыкуле «Эліза Ажэшка ў сваіх апошніх творах» ён бачыць пачаткі рэлігійнасці пісьменніцы ў яе сувязях з беларускай зямлёй і яе насельнікамі, якім уласціва таемная гармонія з прыродай і «містычная пабожнасць думкі» [2, с. 213]. У сваю чаргу, Ажэшку цікавіла праблематыка славянска-заходняга і візантыйска-лацінскага культурнага памежжа, узнятая М. Здзяхоўскім, і яе інтэрпрэтацыя ў духу хрысціянскага гуманізму.

Задума запрасіць пісьменніцу ў Ракаў узнікла ў Здзяхоўскіх у 1906 г. У лісце ад 11 (24) мая 1906 г. Казімір Здзяхоўскі пісаў: «…Калі не здарыцца нічога незвычайнага, будзем усе ў зборы, а менавіта: Мар'ян, затым Лядніцкі прыедзе з нагоды парламенцкіх канікулаў і хоча абавязкова прывітаць Пані ў нас… Раман Скірмунт абяцаў таксама прыехаць, князь Еранім Любецкі жыве за тры вярсты» [1, т. VIII, с. 628 — каментарый]. Што ж аб'ядноўвала гэтых людзей у жаданні супольна прывітаць Элізу Ажэшку на ракаўскай зямлі? Раман Скірмунт, абраны сялянствам Міншчыны дэпутатам 1-й Дзяржаўнай думы, светапоглядна належаў да плыні «тутэйшасці». У брашуры «Голас мінулага і патрэбы сучаснага моманту» (1905) ён выразна адмяжоўваўся ад тых, хто называў сваёй радзімай Польшчу, і дэклараваў, што сэрцам і душой «ад-

даны Літве і Русі». Да гэтай жа «ліцвінскай» плыні належаў і князь Еранім Друцкі-Любецкі з суседняга Новага Поля, актыўны ўдзельнік літаратурнага жыцця Міншчыны. Аляксандр Лядніцкі, адвакат, дэпутат Дзяржаўнай думы і канстытуцыйны дэмакрат, быў, паводле характарыстыкі К. Здзяхоўскага, чалавекам цікавым, мілым і надзвычай патрыятычным. Мар'ян Здзяхоўскі, на той час прафесар надзвычайны Ягелонскага ўніверсітэта, таксама лічыў сябе «тутэйшым». Па сведчанню Цэзарыя Бадуэна дэ Куртэнэ, М. Здзяхоўскі ў размове з варшавянамі казаў: «Я — тутэйшы. Я — грамадзянін Літвы. Мая супольная з вамі гісторыя пачалася ад Ягелонаў» [цыт. па: 3, с. 165]. Такім чынам, сустрэча ў «літоўскіх Афінах» з Ажэшкай мусіла стацца значнай падзеяй у культурным жыцці ўсяго рэгіёна.

На жаль, у 1906 г. пісьменніца прыехаць у Ракаў не змагла. Не мела магчымасці наведаць гэтыя мясціны яна і ў наступным годзе, калі адзначалася 40-годдзе яе творчай дзейнасці. Задума, аднак, і надалей заставалася актуальнай, каб урэшце рэалізавацца летам 1908 г., менш чым за два гады да смерці славутай гарадзенкі.

Эліза Ажэшка прыехала ў Ракаў 9 жніўня. Дзякуючы журналістцы Эўгеніі Жміеўскай, якая суправаджала Ажэшку ў часе ракаўскага візіту, мы маем магчымасць уявіць тую атмасферу, што панавала падчас чатырохдзённага знаходжання пісьменніцы ў вялікапанскай рэзідэнцыі Здзяхоўскіх. Артыкул Жміеўскай «W litewskim dworze» змяшчае проста ідылічныя сцэны побыту Ажэшкі ў Ракаве, апісвае размовы госці з прадстаўнікамі чатырох пакаленняў жанчын роду Здзяхоўскіх пра мастацтва і сучаснасць. Захапленне аўтара «Над Нёманам» выклікалі эрудыцыя і розум дзевяностагадовай старэйшыны роду Алімпіі і яе актыўны ўдзел у гутарках. Паводле Жміеўскай, Ажэшка, разважаючы пра сучаснае пакаленне, выказала тады перакананне ў тым, што «чалавек як зборная адзінка стаўся ўсё ж лепшым, больш спагадлівым, адчувае боль іншага і нясе яму збавенне» [4].

У гонар высокай госці гаспадары дома 11 жніўня 1908 г. наладзілі ўрачысты прыём, на якім, апрача Казіміра і Мар'яна, усёй тагачаснай радні Здзяхоўскіх, прысутнічалі Еранім Друцкі-Любецкі, а таксама Эўгенія Жміеўская і Тадэвуш Бохвіц, якія суправаджалі пісьменніцу ў час яе паездкі ў Ракаў. Дзякуючы невялікай колькасці прысутных і сяброўскім узаемаадносінам паміж імі падчас прыёму панавала ўзнёслая атмасфера. Першым узняў тост Казімір Здзяхоўскі. У сваім выступе ён адзначыў моц таленту Ажэшкі-раманіста, якая «акрамя істотнага ўзбагачэння айчыннай літаратуры была пасля паражэння паўстання 1863 г. адной з найжыватворнейшых крыніц польскасці, аплотам супраць русіфікацыі нашай моладзі» [4]. Словы

ўдзячнасці пісьменніцы за выяўленне ў творчасці лепшых маральных пастулатаў выказаў Мар'ян Здзяхоўскі. Вялікае ўражанне на прысутных зрабіў вершаваным тостам Еранім Друцкі-Любецкі. Сваю оду ў гонар Ажэшкі ён закончыў наступнымі радкамі:

«Ad astra» leci, z wiarą w siłę ducha,
Co zawrzał w sercu Polki i kobiety,
Którego głosu w natężeniu słucha
Fala niemeńska, z wartkimi grzbiety
Swych wód potocznych, dalej, dalej niesie,
Wszędzie, gdzie polska kwitnie myśl i mowa,
I jeszcze dalej, znacząc na dróg kresie,
To drogie imię: Eliza Orzeszkowa

[цыт. па: 3, с. 168].

Падчас урачыстасці брала слова і Эліза Ажэшка. Яна сардэчна падзякавала за «залатыя дні», праведзеныя ў Ракаве.

Не выклікае ніякага сумнення, што надзеі ініцыятараў спаткання з Ажэшкай спраўдзіліся. Старадаўні Ракаў, які на працягу стагоддзяў неаднойчы сустракаў знакамітых асоб, мог ганарыцца шаноўнай госцяй. Паводле Жміеўскай, у Ракаве панавала ў той час патрыятычная атмасфера, касцельныя званы тройчы званілі за душы палеглых пад Варнай і паўстанцаў 1863 г. Ажэшка знайшла ў рэзідэнцыі Здзяхоўскіх жаданую старасвецкую шляхотнасць і шанаванне традыцый вялікапанскага двара, аб страце якіх шкадавала. Пісьменніцу цікавіў адметны ў архітэктурным плане аднапавярховы палац Здзяхоўскіх, вялікая адмысловая бібліятэка ў ім, палотны вядомых мастакоў, музычны салон. Немалое ўражанне на яе аказала хараство навакольнага ландшафту, так захоплена апісанага пазней у прыгодніцкіх раманах Сяргея Пясецкага. Наогул, можна зразумець замілаванне Ажэшкі ракаўскімі краявідамі, калі ўспомніць сцвярджанне Мар'яна Здзяхоўскага, што менавіта прырода з'яўляецца крыніцаю яе духоўнасці і пісьменніцкага таленту.

Нягледзячы на гасціннасць гаспадароў, усё ж трэба было выпраўляцца ў адваротны шлях. На памяць сфатаграфаваліся. Па дарозе з Ракава Ажэшка першапачаткова мелася спыніцца на два дні ў Мінску, дзе да яе прыезду рыхтаваліся розныя польскія суполкі. Але пісьменніца адмяніла запланаваныя сустрэчы. Затрымалася ў Мінску ўсяго на нейкія паўтары гадзіны, каб толькі пераехаць з чыгуначнага вакзала Мінск-Лібаўскі на вакзал Мінск-Брэсцкі. Адмену даўно чаканага візіту яна патлумачыла стомленасцю падарожжам. Магчыма, Ажэшка не хацела сустракацца з некаторымі мінчукамі, якія ўдзельнічалі ў арганізацыі сустрэч, на што, у прыватнасці, звяртае ўвагу Т. Зянкевіч [3, с. 169]. Як бы там ні было, відавочна на-

ступнае: у сімпатыях пісьменніцы «Літоўскія Афіны» атрымалі бясспрэчную перавагу перад Мінскам. І не толькі шчырае сяброўства з прадстаўнікамі вялікага роду Здзяхоўскіх стала гэтаму падставай. Ракаў Ажэшка ўспрыняла як асяродак таго велічнага жыцця, якое яна, мастак-рэаліст, мела ў сваім творчым уяўленні. Зрэшты, яно і заканамерна: спрадвеку шматкультурны, многаканфесійны Ракаў з'яўляўся не толькі месцам мірнага суіснавання розных народаў, але і багатай крыніцай для творчага натхнення літаратараў.

## Спіс літаратуры


1. Orzeszkowa, E. Listy zebrane / E. Orzeszkowa. — Wrocław, 1955. — T. II.; Wrocław, 1958. — T. IV; Wrocław; Warszawa; Kraków; Gdańsk. — T. VIII.
2. Zdziechowski, M. Szkice literackie / M. Zdziechowski. — Warszawa, 1900. — T. 1.
3. Zienkiewicz, T. Polskie życie literackie w Mińsku / T. Zienkiewicz. — Olsztyn, 1997.
4. Żmijewska, E. W litewskim dworze / E. Żmijewska // Słowo. — 1908. — № 243.



*Алена Уладзіміраўна ВОСТРЫКАВА*
*(Мінск)*


# ТЫПАЛОГІЯ ТВОРЧАСЦІ: ЭЛІЗА АЖЭШКА І ЖАНЧЫНЫ-ПІСЬМЕННІЦЫ Ў ЧЭШСКАЙ ЛІТАРАТУРЫ XIX СТАГОДДЗЯ

XIX стагоддзе вывела ў чэшскую літаратуру цэлую плеяду жанчын-пісьменніц: Бажэну Немцаву (1820–1862), Караліну Светлую (1830–1899), Элішку Краснагорскую (1847–1926), Тэрэзу Новакаву (1853–1912). Усе яны сталі зоркамі першай велічыні на чэшскім літаратурным небасхіле і ні ў чым не саступалі сваім калегам — пісьменнікам-мужчынам. Хаця сцвердзіцца ў літаратуры было даволі складана, паколькі трэба было змагацца за роўнасць у грамадска-палітычным, культурным, сямейным жыцці. У творчасці Э. Ажэшкі знайшлі ўвасабленне ўсе значныя праблемы польскага грамадства: цяжкі стан сялянства, эканамічная і маральная дэградацыя шляхты, жаночае пытанне, нацыянальна-вызваленчая

барацьба. Паспрабуем паказаць у сваім артыкуле, што падобныя тэмы глыбока хвалявалі і названых чэшскіх пісьменніц і магчыма правесці шмат тыпалагічных паралеляў паміж творчасцю Э. Ажэшкі і Б. Немцавай, К. Светлай, Э. Краснагорскай, Т. Новакавай. Наша мэта — пазначыць магчымыя кропкі судакранання мастацкіх светаў польскай і чэшскіх аўтарак, акрэсліць патэнцыяльнае поле для кампаратыўнага аналізу твораў названых пісьменніц. У прапанаваным артыкуле засяродзім сваю ўвагу на адметнасцях творчасці Б. Немцавай і К. Светлай у параўнанні з тэматычнай і мастацкай арыгінальнасцю твораў Э. Ажэшкі.

Бажэна Немцава стала наватаркай у гісторыі чэшскай літаратуры і культуры. Яна першая знакамітая прагрэсіўная жанчына ў чэшскай літаратуры. Разам з К.Г. Махам і Ё.К. Тылам яна была зачынальнікам жанру апавядання, менавіта ад іх працягнулася непарыўная літаратурная традыцыя. Ёй належыць заслуга распрацоўкі апавяданняў на сялянскую тэму. Яна стала адным з першых пісьменнікаў-рэалістаў у чэшскай літаратуры. На нацыянальным матэрыяле Бажэна Немцава стварыла шэраг аповесцяў, апавяданняў, нарысаў, раман. Яна паказала багацце ўнутранага свету звычайных людзей — сялян, рабочых, рамеснікаў. Яна, добра спазнаўшы жыццё розных сацыяльных слаёў, выкарыстала ў сваіх творах шмат сродкаў жывой гутарковай мовы. Немцаву лічаць заснавальніцай мовы сучаснай чэшскай прозы.

Яе асабісты лёс як жанчыны засведчыў поўны паварот ад сентыментальнага разумення кахання жанчынай у чэшскім грамадстве, ад пакорлівасці ў шлюбе і поўнага падпарадкавання сваёй волі мужавай. Немцава, жанчына рацыянальная і пачуццёвая адначасова, была чалавекам самых шырокіх інтарэсаў і захапленняў: яна вывучала рускую, нямецкую і балгарскую мовы, цікавілася гісторыяй, этнаграфіяй і геаграфіяй чэшскага народа, займалася анатоміяй і медыцынай, штудзіравала батаніку. Яна добра разумела, як і паэты-мужчыны яе пакалення, сэнс і значэнне тагачасных грамадска-палітычных і культурных тэндэнцый. Яна мела смеласць пражываць сваё жыццё паводле законаў уласнага ўнутранага свету, нашмат апярэдзіўшы этычнае развіццё грамадства.

Немцава была знаёма з выбітнымі дзеячамі чэшскай навукі, літаратуры і культуры — Францішкам Палацкім, Ёзэфам Юнгманам, Паўлам Шафарыкам, Францішкам Ладзіславам Чалакоўскім, Ёзэфам Каэтанам Тылам і многімі іншымі. Яна вяла шырокую асветніцкую работу сярод насельніцтва вёсак, прапагандавала патрыятычныя ідэі. Яна стойка і самааддана змагалася з буржуазнамяшчанскімі забабонамі ў поглядах на ролю і месца жанчыны ў сям’і і грамадстве. Ідэалам для яе былі Жэрмэна дэ Сталь і Жорж Санд.

Як пісьменніца Бажэна Немцава спалучае рысы сентыментальна-рамантычнага бачання шляхоў удасканалення грамадства, якое павінна жыць у згодзе з прыродай, і рэалістычна дакладныя назіранні за жыццём.

Літаратурная дзейнасць Бажэны Немцавай пачыналася з патрыятычна афарбаванай паэзіі, сентыментальных вершаў пра каханне. Паступова Немцава ўсвядоміла, што яе прызванне — гэта ўсё ж такі проза. Адной з першых яна звяртаецца ў чэшскай літаратуры да жанру казкі. У 1845 г. з'яўляецца зборнік «Народныя казкі і паданні», які спалучае вольную гульню пісьменніцкай фантазіі, фальклорныя матывы, этнаграфічную дакладнасць, уплыў нямецкай літаратурнай школы. Побыт у Дамажліцах, успаміны з жыцця ў родных Раціборжыцах, практычны і эмацыянальны вопыт збірацелькі фальклору, — усё гэта паспрыяла таму, што яскравая вобразнасць, рамантычны тон казак захапілі і чытачоў, і крытыкаў. Загаварылі пра арыгінальны талент Бажэны Немцавай. Усяго за наступныя тры гады выходзіць шэсць зборнікаў чароўных, бытавых і сатырычных казак аўтаркі. Заўважна цудоўнае адчуванне мовы Немцавай. Яе творы вылучаюцца лаканізмам, жывасцю, што адрознівала яе ад многіх тагачасных чэшскіх пісьменнікаў. Казкі насычаны прыказкамі, прымаўкамі, якія арганічна зліваюцца з аўтарскай мовай.

Тут можна правесці паралель са станаўленнем Э. Ажэшкі, для якой наднёманскі край стаў вельмі значнай крыніцай фарміравання як мастака. Ажэшка, як і Немцава, выкарыстоўвала ў сваіх творах народныя песні, паданні, звычаі.

Далей з-пад пяра чэшскай пісьменніцы выйшлі цыклы нарысаў «Карціны дамажліцкіх ваколіц» (1945–1946), «Лісты з Францішкавых Лазняў» (1846), «З Дамажліц» (1847). Творы змяшчалі ў сабе багаты этнаграфічны матэрыял, а таксама сведчылі пра зараджэнне навелістычнага пачатку. Бажэна Немцава засяродзіла сваю ўвагу на духоўным развіцці сялян, з лёсам якіх яна звязвала будучае чэшскай нацыі. Пісьменніца гаворыць пра паэтычны вобраз мыслення, шчырасць, працавітасць, вольналюбства ходаў. У сваіх нарысах Немцава абапіралася на жывую народную мову. Аповед пра гісторыю і эканоміку краю чаргуецца з апісаннямі быту, прыроды, нацыянальных характараў, з жывымі жанравымі сцэнамі і згадкамі пра казкі, паданні і легенды. Казкі і нарысы прадэманстравалі тэндэнцыю да рэалістычнага адлюстравання рэчаіснасці і сталі своеасаблівай літаратурнай майстэрняй, этапам да прозы 50-х гг.

Апавядальніцкая проза Немцавай пачынаецца з невялікіх навелістычных замалёвак, матэрыял для якіх яна чэрпала з

уражанняў ад побыту ў Дамажліцах. У сваіх апавяданнях пісьменніца праявіла назіральнасць, незвычайную пачуццёвасць, разуменне складанасці чалавечай натуры. Немцаву цікавіць не толькі тое, які ёсць чалавек, але і чаму ён такі, як паўплывалі на яго пэўныя абставіны, асяроддзе. Чэшская аўтарка адной з першых спрабуе сілы ў жанры рэалістычнага апавядання пра вёску, некаторыя персанажы якіх нагадваюць герояў казак. Трэба ўспомніць апавяданні «Доўгая ноч», «Вясковая карцінка», у якіх Немцава свядома пазбягае сентыментальна-рамантычных вобразаў, паэтызуе ўсё жывое і яскравае ў народзе, выкарыстоўвае дакладныя рэалістычныя дэталі. Дарэчы, Э. Ажэшка літаратурную дзейнасць таксама пачынала з апавядання «У галодныя гады».

Бажэна Немцава стварыла ў сваіх творах шмат запамінальных жаночых вобразаў. У аповесці «Барушка» (1853) на фоне жыцця вялікага горада даецца гісторыя дзяўчыны з цёмным сацыяльным мінулым. Аповесць «Сёстры» (1854) — гэта патэтычны аповед пра лёс сялянскай дзяўчыны, якую спакусіў пан. Тыповы для старой вёскі канфлікт вырашаецца ў межах рамантычнай схемы: супрацьпастаўляюцца два сацыяльныя асяроддзі, дзве псіхалогіі. Прысутны і матыў помсты. У «Разарцы» (1855) распавядаецца пра няшчасную, абдзеленую жыццём дзяўчыну з надзвычай беднай сям’і, якая, аднак, мае высакароднае сэрца. Аповесць «Карла» (1855) будуецца на незвычайным сюжэце: сялянка, дзеля таго каб выратаваць сына ад рэкрутчыны, выдае яго за дзяўчынку. Адпаведна ўзнікае шэраг драматычных сітуацый. Аповесць «Дзікая Бара» (1856) узнікае пад уплывам «Маленькай Фадзеты» Жорж Санд. У творы паказаны канфлікт паміж Барай, дачкой рана аўдавелага пастуха, і прымхлівымі сялянамі, якія вераць, што Бару падкінула яе матцы міфалагічная «палудніца». Бара паказана вольнай ад забабонаў, блізкай да прыроды асобай. Пад уплывам такіх жыццёвых абставін у яе фарміруецца моцны і незалежны характар. Немцава праз вобраз сваёй гераіні паказвае ідэал чалавека, вольнага ад патрыярхальных забабонаў і ў той жа момант не закранутага буржуазна-мяшчанскімі недахопамі.

У Элізы Ажэшкі таксама часта ў цэнтры ўвагі менавіта гераіні: Хрысціна (аповесць «Нізіны»), Марта (раман «Марта»), Франка (аповесць «Хам»), Юстына (раман «Над Нёманам»). Параўнанне жаночых вобразаў дзвюх аўтарак патрабуе асобнага даследавання.

У згаданых творах Немцавай шмат сумных і трагічных карцін, але ўсё ж такі перамагае светлы пачатак, што можна патлумачыць канцэпцыяй народнага нацыянальнага жыцця Немцавай. Яна была ўпэўнена, што аснову гісторыі складае менавіта жыццё народа, ад якога і залежыць будучае ўсёй нацыі. Яна свядома паэтызуе народ-

ныя характары, бачыць у чалавеку з народа носьбіта нацыянальнай ідэі, увасабленне гуманізму і маралі. Названыя аповесці насычаны фальклорна-этнаграфічнымі дэталямі. У мове персанажаў скарыстоўваюцца дыялектныя асаблівасці, што сведчыць пра багацце і разнастайнасць прыменених рэалістычных прыёмаў. Падобную пазіцыю мы адзначаем і ў рамане «Над Нёманам» Э. Ажэшкі. Нездарма Юстына ў фінале ідзе жыць у «мужыцкую хату». Раман польскай пісьменніцы багаты на этнаграфічны матэрыял, паказвае нацыянальныя характары.

Бажэна Немцава была прыхільніцай мірнага адраджэння сваёй краіны. Яе творы сведчаць пра захапленне ўтапічнымі сацыялістычнымі ідэямі. У 1848 г. яна нават уступіла ў «Чэшска-мараўскае братэрства», заснаванае манахам Клацэлам, які верыў у магчымасць спалучэння ўсеагульнага шчасця і нормаў евангелічнай маралі.

У часы самых цяжкіх матэрыяльных нягод і жыццёвых выпрабаванняў, калі Немцава сама цяжка хварэла, калі яна страціла сына Гінэка, была жорстка расчараваная ў людзях, у 1853–1854 гг. пісьменніца малявала суцяшальныя вобразы свайго дзяцінства, роднага краю, дзе ў цэнтры ўсяго быў вобраз яе бабулі. Наведванне родных мясцінаў спрыяла ўзмацненню прыродаапісальнага складніка твора. Захапленне этнаграфіяй і фальклорам у дамажліцкі перыяд садзейнічала значнай увазе да народных звычаяў і традыцый. Усё гэта ўвасобілася ў рамане «Бабуля», у якім даюцца карціны вясковага жыцця, апісваюцца ўсе народныя святы і звычаі на працягу каляндарнага года. Кніга пабачыла свет у 1855 г. «Бабуля» — адна з самых знаных кніг чэшскай літаратуры. Яна перакладзена амаль на ўсе славянскія, а таксама на нямецкую, англійскую, французкую і венгерскую мовы. У 2007 г. намаганнямі беларускай перакладчыцы Н.Б. Рашэтнікавай «Бабуля» з'явілася ў цудоўным перакладзе на беларускую мову. Твор пісаўся пад уплывам ідэалізуючых мінулае ўспамінаў пісьменніцы пра лёс сям'і Панклавых у Раціборжыцах, пра яе бабулю Магдалену Новатну, пра замкавае атачэнне. Адносіны Барункі да бабулі, стаўленне самой бабулі да акаляючага яе свету, людзей у рамках гадавога колазвароту і звязаных з ім народных звычаяў і ствараюць дзеянне рамана. (Дарэчы, у даследчыкаў няма адзінай пазіцыі наконт таго, што гэта — аповесць альбо раман.) Эмацыянальны фон кнігі цалкам светлы і аптымістычны. Чэшская пісьменніца стварыла ў «Бабулі» шэраг незабыўных вобразаў, галерэю чалавечых тыпаў, сцэн з народнага нацыянальнага жыцця. Раман насычаны карцінамі прыроды. Паказана амаль інтымнае стаўленне сялян да роднай прыроды. У «Бабулі» Бажэна Немцава майстэрскі змагла спалучыць сваю творчую

індывідуальнасць і эпічную аб'ектыўнасць, цікавыя этнаграфічныя назіранні і дынамічнае дзеянне, моўную віртуознасць і народную аўтэнтычнасць, маляўнічыя карціны чэшскай прыроды і незвычайнае веданне чалавечага сэрца і пачуццяў.

Такім чынам, можна зрабіць высновы, што і Ажэшка, і Немцава маюць шмат агульнага: яны вабяць праўдай, гуманізмам, любоўю да радзімы і літаратурным майстэрствам. Яны належыць да тых творцаў, якія ўвабралі і віртуозна выразілі душу народа ў сваіх творах. Гэтым пісьменніцам уласцівы тонкі лірызм, паэтычнасць у апісаннях прыроды, працы, кахання. Абедзве адчулі ўплыў фальклору, абедзве пісалі этнаграфічныя нарысы.

Яшчэ адна пісьменніца, творчасць якой можна разглядаць у культурнай парадыгме «Ажэшка — жанчыны-пісьменніцы чэшскай літаратуры XIX стагоддзя» — гэта Караліна Светлая. Вельмі багатая творчая спадчына Караліны Светлай займае ў прозе генерацыі чэшскіх пісьменнікаў-маеўцаў значнае і адначасова асаблівае месца. Светлая моцна пакутавала ў жыцці ад павярхоўнасці і абыякавасці людзей, таму яна мэтанакіравана шукала абрысы новага маральнага светапарадку, які б даў правільны кірунак і пэўны сэнс жыццю. Свае погляды і светаўспрыманне яна ўвасобіла ў характарах герояў сваіх кніг, галоўным чынам у вобразах жанчын. Праз іх пісьменніца хацела паўплываць на сучаснае ёй грамадства і садзейнічаць яго паляпшэнню. Караліна Светлая тварыла ў асноўным у 60–70-я гг., калі ў літаратуры шырылася вострая крытыка ценявых бакоў буржуазнай маралі. Матэрыял для сваіх апавяданняў і раманаў Светлая чэрпала з дзвюх крыніц: з жыцця мяшчанскай Прагі і тагачаснай вёскі ешчэдскага краю. Нікчэмнасць, убогасць духоўнага жыцця пражан кантрастуе са здаровай жыццёвай пазіцыяй і маральнымі ўстаноўкамі герояў ешчэдскага цыкла. Вобразы ў прозе пісьменніцы вылучаюцца псіхалагічнай дакладнасцю і ў той жа момант складанасцю, вялікім эмацыянальным напружаннем, драматычнымі і вельмі цікавымі фабуламі.

Светлая ўваходзіла ў літаратуру з яснымі, склаўшыміся поглядамі на жыццё і на мастацтва. Яна была патрыёткай, якая вывучыла чэшскую мову толькі ў сталым узросце. Захаплялася Байранам, Скотам, Шылерам, Гётэ. Узорам для яе была Арлеанская дзева. Караліну Светлую прыцягвала чэшскае нацыянальнае жыццё, і яна з юнацтва марыла пра пісьменніцкую працу. Ідэалам для Светлай становяцца Бажэна Немцава і Жорж Санд, ідэі і творчасць якіх заўсёды застаюцца яе арыенцірам. Караліна Светлая — гэта псеўданім Іаганны Мужакавай, пад якім пісьменніца пачала друкавацца ў альманаху «Май» у 1958 г. Светлая — вёска ў Ешчэдскіх гарах на паўночным захадзе Чэхіі, дзе жылі бацькі мужа і дзе Іаганна

праводзіла многія летнія месяцы. Гэтаму псеўданіму яна была верная ўсё жыццё. Першай жа спробай пяра стала навела «Двайное абуджэнне», у якой пісьменніца выявіла самыя яскравыя рысы свайго таленту: майстарскае пранікненне ў жаночую псіхалогію, зварот да праблемы выхавання жанчыны і яе ролі ў грамадстве.

Цэнтральнае месца ў творчасці пісьменніцы займае ешчедская проза. Да названага цыкла далучаюць «Вясковы раман» (1867), «Крыж ля ручая» (1868), «Кантарша» (1869), «Франціна» (1870), «Бязбожнік» (1873) і вялікую колькасць апавяданняў. У Ешчедзе Светлая добра пазнаёмілася з народнымі характарамі, лёсамі, звычаямі, укладам жыцця, праблемамі. Яна злілася з народнай стыхіяй. Героі і асабліва гераіні гэтага цыкла ўвасобілі лепшыя рысы чэшскага народа. Яны сталі ідэалам гарманічнага яднання фізічнай і маральнай прыгажосці. Раманы, аповесці і апавяданні ешчедскага цыкла ярка апісваюць тагачасную вёску з усімі яе сацыяльнымі і маральнымі асаблівасцямі і праблемамі: шлюб без кахання, несвабода асобы і г. д. Але галоўнае пытанне, якое хвалявала аўтарку, — гэта прызначэнне жанчыны, яе месца ў сучасным жыцці ўвогуле і жыцці вёскі ў прыватнасці. На думку Караліны Светлай, чэшская вёска была цэнтрам самых вострых пытанняў чэшскага грамадства. Проза пісьменніцы насычана страсцямі, бурлівымі пачуццямі і эмоцыямі. Героі часта аказваюцца перад выбарам паміж каханнем і абавязкам і амаль заўсёды выбіраюць абавязак, як зрабіла і сама аўтарка, за што вядомы чэшскі крытык Ф. К. Шальда, прачытаўшы перапіску Светлай і Нэруды, назваў пісьменніцу «ільвіцай духу». Сюжэты сваіх твораў яна бярэ з сямейных паданняў і гісторый ешчедскага краю. Светлая, як і Ажэшка, як і Немцава, падрабязна апісвае ў кнігах вясковае быццё, народныя звычаі, абрады. Усе гераіні надзяляюцца выключнымі, вельмі моцнымі характарамі, якія сустракаюцца ў рэальным жыцці не так часта. Вобразы жанчын у прозе крыху прыўзняты над рэальнасцю, але не адарваны ад яе. Карціна вёскі, намаляваная пісьменніцай, амаль усёахопная, але акцэнтуецца, тым не менш, менавіта маральны аспект. Гераіні падаюцца шматпланава — і з адмоўнымі, і са станоўчымі якасцямі сваёй душы. Пафас Светлай у пратэсце супраць прыніжэння жанчыны, у барацьбе за яе адукаванасць, права на працу і пэўнае становішча ў грамадстве. Значнасць твораў ешчедскага цыкла зусім не лакальная, таму што аўтарка імкнецца да шырокіх абагульненняў і высноў. Яе непакоіць лёс чэшскага народа і чэшскай жанчыны. Як і Э. Ажэшка ў «Нізінах», «Дзюрдзі», Светлая асуджае грамадства, якое можа прыніжаць слабых, яна крытыкуе асяродак, які параджае коснасць і забабоны.

Мастацкі цікавым і тэматычна значным з’яўляецца і старапражскі цыкл Караліны Светлай, які ўключае раманы «Першая чэшка» (1861), «На світанку» (1864), «Апошняя пані з Глогава» (1870), «Каралеўна званочкаў» (1872) і інш., шмат апавяданняў, аповесці «Чорны Петршычэк» (1871), «Дачка свайго бацькі» (1884) і г. д. У названых творах адлюстраваны цяжкі лёс першых будзіцеляў, барацьба асветнікаў з рэлігійнымі догмамі і фанатызмам, рэвалюцыйныя выступленні сялянскага насельніцтва, спробы абудзіць нацыянальную свядомасць чэшскага народа. Назва цыкла тлумачыцца тым, што пісьменніца ў цэнтр аповеду ставіць карціны быту і нораваў старой Прагі, характары пражскіх абывацеляў. Раманы і аповесці старапражскага цыкла звязаны з канкрэтнай эпохай, але да гістарычнага жанру аднесці іх нельга, негледзячы на паўнату і верагоднасць апісанняў. Аўтарка ў інтэрпрэтацыі тэмы абапіраецца на прагрэсіўную канцэпцыю чэшскай гісторыі Ф. Палацкага: узгадвае ідэйную спадчыну Абшчыны чэшскіх братоў, паслядоўнікамі якіх з’яўляецца большасць станоўчых герояў Светлай. Зразумела, што пісьменніцу ў дзейнасці Абшчыны цікавіў не кафесійны, а маральна-этычны бок іх духоўнай спадчыны. Часта можна вылучыць у творах такі жанравы складнік, як раман-выхаванне. Гэта тычыцца і рамана «Каралеўна званочкаў», і аповесці «Чорны Петршычэк», і некаторых іншых. У прозе Караліны Светлай паўстае манументальны вобраз горнага Ешчеда і такі ж манументальны вобраз старой Прагі, па вуліцах якой яе, яшчэ зусім маленькую, вадзіў бацька і распавядаў таямнічыя гісторыі. У адлюстраванні Прагі пісьменніца абапіралася на традыцыі Тыла, які стаў першым песняром ставежавай Прагі ў чэшскай літаратуры Новага часу. Аўтарка звярталася да праблемы чалавечага шчасця, якому перашкаджае сацыяльная няроўнасць і хлуслівая мараль. Гэтую тэму яна распрацоўвае ў аповесці «Чорны Петршычэк». І амаль праз кожны твор чырвонай ніццю праходзіць жаночае пытанне. У гэтым сэнсе на пісьменніцу аказала ўздзеянне Жорж Санд. Аднак праблему жаночай эмансіпацыі Светлая вырашае не толькі ў сямейным жыцці. Яе хвалюе перш за ўсё бяспраўнае становішча жанчыны ў грамадстве.

Паэтыку прозы Светлай вылучае драматызм зместу і дыялагічнасць формы. Сучаснікі бачылі ў гэтым пэўную блізкасць да драматургіі. Трэба ўхваліць і дыяпазон моўнага майстэрства аўтаркі, якая авалодала чэшскай мовай, будучы даросლай. У творах ужываюцца вясковыя абароты і лексіка, мова пражскіх вуліц другой паловы XIX стагоддзя, архаізаваная лексіка чэшскіх патрыцыяў канца XVIII стагоддзя. Кожны персанаж мае свой моўны партрэт, які адпавядае ўзросту, сацыяльнаму статусу, характару, заняткам.

Значную ролю адыгрывае простая мова, маналогі і дыялогі, праз якія падаюцца разважанні персанажаў, адметнасці іх характараў, абмалёўваюцца пэўныя падзеі. Адразу звяртае ўвагу псіхалагізм прозы Караліны Светлай, скрупулёзна распрацаваныя вобразы. Калі спрабаваць акрэсліць мастацкі метад пісьменніцы, то трэба ўлічваць сталае спляценне элементаў рамантызму і рэалізму. У некаторых творах праяўляюцца нават сентыментальна-асветніцкія тэндэнцыі. Аўтарка рэалістычна апісвае асяроддзе, дэталі быту, выразныя якасці чалавечай натуры, разумее сацыяльную абумоўленасць падзей. Але вырашэнне сацыяльных канфліктаў пісьменніца спрабуе даваць з агульнагуманістычных пазіцый дабра, справядлівасці. Не абыходзіцца Светлая і без рамантычнай гіпербалы: у раскрыцці духоўнага свету герояў, у захапленні алегарычнымі вобразамі і сімволікай. Светлая майстарскі авалодала эпічнай формай, у якую цудоўна ўпісаліся складаныя характары яе персанажаў, якія заўсёды знаходзяцца ў руху, у канфлікце з сабой і акаляючым светам. Дынаміка — вось што вабіць у творчасці пісьменніцы. Уражвае эмацыянальнасць аповеду, усхваляваныя інтанацыі. Чытач стала знаходзіцца ў напружанні падчас знаёмства з творамі Светлай. Тэксты насычаны філасофскімі разважаннямі пра сэнс чалавечага жыцця, месца чалавека ў грамадстве, абавязак перад сабой і людзьмі. Незвычайныя, смелыя, гордыя натуры яе герояў кантрастуюць з жыццёвай руцінай. Бясспрэчнай з'яўляецца павучальнасць, пэўны дыдактызм творчасці пісьменніцы, але імкненне паказаць ідэал — зусім няблага. Ужо пры жыцці Караліна Светлая набыла еўрапейскую вядомасць і перакладалася на нямецкую, польскую, рускую, французкую і іншыя мовы. Без перабольшвання можна сцвярджаць, што сёння яе раманы і аповесці актуальныя і цікавыя сваімі мастацкімі здабыткамі і ідэйна-тэматычнай насычанасцю. З Э. Ажэшкай К. Светлую зблiжае агульная маральна-этычная скіраванасць твораў, а таксама вялікая цікавасць да грамадска-палітычных праблем, народных паўстанняў і рухаў.

Багацце і шматпланавасць культурнай парадыгмы Э. Ажэшкі, Б. Немцавай, К. Светлай, існаванне агульных ідэйна-тэматычных і мастацкіх вектараў іх творчасці дае падставы сцвярджаць, што параўнанне мастацкіх светаў польскай і чэшскіх пісьменніц вельмі перспектыўнае, патрабуе глыбіні і ўважлівага пранікненне ў тэкст іх твораў, струкруру вобразаў і абяцае цікавыя і аб'ектыўныя вынікі.

## Літаратура

1. Černy, V. Knižka o Babičce / V. Černy. — Praha, 1963.
2. Fille, V. Božena Němcová / V. Fille. — Praha, 1947.

3. Haubelt, I. České osvícenství / I. Haubelt. — Praha, 1986.
4. Ivanov, M. Zahrada života paní Betty / M. Ivanov. — Praha, 1992.
5. Jurčinová, E. Podobizny spisovatelek světové galerie / E. Jurčinová. — Praha, 1929.
6. Nováková, T. Karolina Světlá, její život a spisy / T. Nováková. — Praha, 1890.
7. Novák, A. Myšlenky a spisovatelé / A. Novák. — Praha, 1914.
8. Novák, A. Podobizny žen / A. Novák. — Praha, 1918.
9. Michl, K. Babiččino údolí / K. Michl, Z. Menec. — Praha, 1976.
10. Polemika s dobou. Karolina Světlá ve vzpominkách a korespondenci současniků. — Praha, 1969.
11. Špičák, J. Karolina Světlá / J. Špičák. — Praha, 1980.
12. Šalda, F.K. Kritické projevy 8 / F.K. Šalda. — Praha, 1956.
13. Šmahelová, H. Autor a subjekt v díle Boženy Němcové / H. Šmahelová. — Praha, 1995.
14. Tille, V. Božena Němcová / V. Tille. — Praha, 1969.

***Таццяна Вячаславаўна КАБРЖЫЦКАЯ***
***(Мінск)***

# СТЫЛЁВАЯ ДАМІНАНТА АПАВЯДАННЯ ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ «ЗІМОВЫМ ВЕЧАРАМ» У КАНТЭКСЦЕ СЛАВЯНСКАГА ЛІТАРАТУРНАГА НАРАДАЗНАЎСТВА

Славянскае нарадазнаўства як вядучая ідэя актыўна заявіла пра сябе ў XIX ст. і выявілася найперш у збіральніцкай, культурна-асветнай дзейнасці вучоных-фалькларыстаў — прадстаўнікоў чэшскай, сербскай, расійскай, украінскай культур. Даследаванні фалькларыстаў і этнографаў спрыялі працы пісьменнікаў, якія засяродзіліся на адлюстраванні асаблівасцей менталітэту народа, прадстаўнікамі якога яны сябе лічылі. Пытанні нацыянальнай самабытнасці лепшымі творцамі пачалі ўпісвацца ў адзіны комплекс палітыка-сацыяльных праблем часу. Першыя крокі літаратурнага нарадазнаўства раскрываюць тыпалогію мастацкіх сродкаў апрацоўкі фальклорнага матэрыялу.

Найбольш яскрава выявілася ўвага да народнай творчасці ў паэтаў-рамантыкаў, для якіх асновай мастацкага тэксту з’явіліся такія фальклорныя жанры, як песня, балада. Мастацкая проза

вырастала з побытавага апавядання. Стылізаванае пісьменніцкае апавяданне выкарыстоўвала этнаграфічны матэрыял і пераважна рэалістычныя прыёмы пісьма. Назіранні літаратуразнаўцаў паказваюць, што такое апавяданне мела сталую марфалагічную структуру, сістэмны характар мастацкіх прыёмаў. Цэнтральнае месца ў структуры пісьменніцкага нарадазнаўчага тэксту адведзена сюжэту, які пабудаваны на вельмі пашыранай традыцыйнай калізіі — перашкодзе на шляху закаханай маладой пары з вяскоўцаў. Палітра мастацкіх прыёмаў таксама вельмі канкрэтная: чалавек, яго ўчынкі і маральныя якасці падаюцца праз выкарыстанне сродкаў народнай творчасці: сталыя эпітэты і параўнанні, народныя выслоўі і фразеалагізмы. З цягам часу гэтыя прыёмы пераходзяць і ў празаічныя творы большых памераў. Пры адлюстраванні народнага жыцця дамінуе побытавы этнаграфізм, што ўрэшце ў другой палове XIX ст. прыводзіць да стварэння так званай натуральнай школы [2]. Гэтыя адметнасці развіцця дачыненняў пісьмовай, аўтарскай і вуснай народнай творчасці досыць яскрава выявіліся пры высвятленні тыпалогіі ўкраінскага (Г. Квітка-Аснаўяненка, Марка Ваўчок, І. Нячуй-Лявіцкі і інш.) і балгарскага (Л. Каравелаў, Т. Влайкаў, Ц. Гінчаў і інш.) літаратурных працэсаў [1, с. 97–130]. Для твораў названых аўтараў характэрным з’яўляецца апісанне рэчыўнага свету селяніна, вясковага ўкладу жыцця — побыту і святаў. Народныя песні з’яўляюцца абавязковым інтэртэкстуальным элементам твораў, якія ва ўкраінскім літаратуразнаўстве атрымалі назву этнаграфічна-побытавай прозы.

На мяжы XIX і XX стст. рэалістычны паказ жыцця народа ўзбагачаецца прыёмамі мадэрнісцкай паэтыкі. Паказальнымі з’яўляюцца жанры малой прозы. У твор уводзяцца вострыя псіхалагічныя калізіі, пісьменнік імкнецца перадаць не столькі вонкавы, колькі ўнутраны стан душы героя. Стылістыка нарадазнаўчага твора ўскладняецца, сацыяльны і псіхалагічны аспекты ўжо не падаюцца прамалінейна, а пачынаюць напаўняцца філасофскім падтэкстам. Выкарыстанне фальклорнага матэрыялу на пачатку XX ст. падначалена прагрэсіўным эстэтычным пастулатам часу, узнімаецца пытанне свабоды індывідуума. Агульным для пісьменства становіцца выкарыстанне як багатай народнай міфалогіі, так і біблейскіх сюжэтаў (В. Кабылянская, М. Кацюбінскі, Леся Украінка, В. Стафанік — П. Тодараў, Ё. Ёўкаў і інш.).

Звяртаючыся да характарыстыкі польскага эпасу, адразу адзначым, што празаікі Польшчы не былі заглыблены ў крыніцы фальклорнай літаратуры так глыбока, як гэта адбывалася ва Украіне. Польшча значна раней за ўсходнеславянскія землі ўступіла ў працэс капіталістычных пераўтварэнняў жыцця грамадства. І таму поль-

ская вёска ў сваёй этнічнай памяці ў значна меншай меры захавала фальклорны рэпертуар, адпаведна, у XIX ст. ужо перастала выступаць захавальнікам пасіянарнага духу нацыі. У польскіх раманах народ, селянін падаваўся толькі зрэдку, пісьменнікі справядліва крытыкаваліся за адсутнасць у творах адлюстравання народнага жыцця, за схематычную ідэалізацыю панскага двара і шляхты.

Пачынаючы з Э. Ажэшкі і Б. Пруса, канцэпцыя польскіх празаікаў у дачыненні да вяскоўца-мужыка мяняецца. Праўда, імкненне Пруса ўзнавіць у творы жыццё ў падрабязнасцях, як пад мікраскопам, прыводзіла да пэўнай спрошчанасці паказу рэальнасці («Фарпост»). Уласна кажучы, адна з адметнасцей польскага рэалізму — натуралізм. Паказальным з'яўляецца нарадазнаўчы індывідуальны стыль У. Рэйманта, пісьменніка шырокага танальнага дыяпазону. У яго сусветна вядомым рамане «Сяляне» адлюстраванне мясцовага каларыту характарызуецца шырокай увагай да народнай творчасці. Рэймантаўскія героі-вяскоўцы, як ніякія іншыя, гавораць сакавітай мовай, перакідваючыся прымаўкамі і прыказкамі. Аўтар каларытна перадае побыт сялян, дакладна апісваючы народнае адзенне, вясковыя святы, кірмашы. Так, чытач, уключаючыся ў працэс вяселля, знаёміцца з польскімі народнымі абрадамі і легендамі. Менавіта дзякуючы пейзажнаму майстэрству і звароту да фальклорнага матэрыялу рэалістычны пісьменніцкі твор сагрэты лірычным пачуццём. У творах Рэйманта традыцыі рэалізму, пазначаныя элементамі натуралізму, спалучаюцца з імпрэсіяністычнымі і сімвалісцкімі тэндэнцыямі. Менавіта такія якасці становяцца вядучымі ў польскай прозе на мяжы XIX і XX стст.

У пераходны перыяд паміж старой і новай школай літаратурнага нарадазнаўства з'яўляецца апавяданне Элізы Ажэшкі «Зімовым вечарам». Увогуле за сваё творчае жыццё польская пісьменніца напісала звыш 30 раманаў і аповесцей. Яна рэалістычна падавала праўду жыцця на сацыяльным і побытавым узроўнях, пісала пра разарэнне шляхты, маральны ўпадак арыстакратыі, выступала ў абарону бедных нізоў горада і вёскі, асобна вылучаючы пры гэтым тэму жаночай эмансіпацыі. Аднак сусветнае прызнанне Э. Ажэшка атрымала менавіта ў канцы XIX ст., калі з асаблівым майстэрствам апісала прадстаўнікоў тых народаў, якія жылі на яе роднай зямлі, — не толькі палякаў, але і яўрэяў, беларусаў. Не дзіва, што знакаміты ўкраінскі пісьменнік Іван Франко, які называў Э. Ажэшку «зоркай першай велічыні… на небасхіле сучаснай польскай літаратуры», выяўляў жаданне перакласці на ўкраінскую мову яе прозу, і найперш «такія дасканалыя і напісаныя з такой душэўнай цеплынёй творы… з жыцця беларускага народа».

Беларускія матывы — падзеі, вобразы, пейзажныя малюнкі, этнаграфічны кампанент — прысутнічаюць у многіх творах

пісьменніцы, у тым ліку ў аповесцях «Нізіны» (1884), «Дзюрдзі» (1885), «Хам» (1888), рамане «Над Нёманам» (1887), апавяданнях «Рэха», «Раманіха», «Зімовым вечарам», «Тадэвуш» і інш. Беларускі фальклор, сялянскі побыт, беларуская флора апісаны ў яе нарысах «Людзі і кветкі на берагах Нёмана» (1888–1891).

Апавяданне Элізы Ажэшкі «Зімовым вечарам» выключна паказальнае для раскрыцця яе пісьменніцкай канцэпцыі беларускага народазнаўства. У мастацкім тэксце знаходзім шмат з таго, што можна лічыць нарадазнаўчай інфармацыяй. У апавяданні ўзнімаюцца і сацыяльныя, і маральна-этычныя праблемы. Усе дзейныя асобы твора — вясковыя беларусы. Аўтарскія адносіны да герояў вызначаюцца сапраўднай сімпатыяй, што выяўляецца праз усе сродкі стварэння вобразаў, у тым ліку і праз партрэтныя апісанні. У гэтым плане асаблівым дасягненнем пісьменніцы можна лічыць вонкавы партрэт селяніна Сымона Мікулы. Як галоўныя, так і другарадныя героі твора — госць, гаспадар хаты, іншыя члены яго сям'і — выпісаны з глыбокім і тонкім раскрыццём іх псіхалогіі. Паказу душэўных перажыванняў дзейных асоб спрыяюць моўныя характарыстыкі, нават невялічкія рэплікі ў дыялогу персанажаў апавядання маюць канцэптуальнае значэнне. Напружаны настрой твора падмацаваны пейзажнымі малюнкамі, якія ў апавяданні ствараюць кальцавую кампазіцыю. Яшчэ адна адметнасць майстэрства Э. Ажэшкі — займальнасць сюжэта, ідэйная задума апавядання прачытваецца паступова, загадкавасць асобы госця захоўваецца амаль да апошніх радкоў аповеду.

Пісьменніца засяроджвае чытацкую ўвагу на глыбокіх каранях народнай маралі і народнай эстэтыкі, якія раскрываюцца праз зварот да розных форм народнай самасвядомасці — этычныя нормы, эстэтычныя пачуцці, эмацыянальнае ўспрыняцце рэчаіснасці. Аўтарскае выяўленне канцэпцыі нацыянальнага характару беларусаў здзяйсняецца ў некалькіх напрамках. Як найбольш важкія канцэпты ў творы можна вылучыць хрысціянскую веру і народную культуру. Апеляцыя ў творы да евангельскіх нормаў маралі (каплічка, вобраз Хрыста), а таксама да біблейскай прытчы падкрэсліваюць неабходнасць дамінанты духоўных каштоўнасцей у жыцці чалавека. Біблейская прытча пра блуднага сына, выкарыстаная для мастацкага асэнсавання жыццёвага здарэння, нібыта падказвае: пакаянне ачышчае душу чалавека, выратаванне можа быць наканавана таму, хто прызнае свае памылкі.

Агульначалавечае, гуманістычнае ў творы моцна знітавана з народна-нацыянальным. Пісьменніца абапіраецца на шырокае выкарыстанне этнаграфічных асаблівасцей, прама ці апасродкавана звяртаецца да народнай сімволікі, замацаванай у вераваннях і

ўяўленнях беларусаў, да вусна-паэтычнай народнай творчасці. Так, нельга не прызнаць, што аўтарская ўвага свядома сканцэнтравана на вясковай хаце. Яшчэ здаўна ў народзе замацавалася ўяўленне пра народнае жытло як пра мадэль сусветнага правапарадку. І тыя дэталі, якія выпісвае пісьменніца пры абмалёўцы інтэр'ера і экстэр'ера сялянскай хаты, таксама з'яўляюцца вельмі важнымі ідэйнымі акцэнтамі. Таму невыпадкова Э. Ажэшка героя свайго апавядання беларуса Сымона Мікулу ставіць на чале вялікай і дружнай сям'і (таксама народны ідэал) і «пасяляе» іх усіх у адну прасторную, функцыянальную і ўтульную хату. У адпаведнасці з народнымі ідэаламі падаюцца і падрабязнасці этнаграфічнага плана: сярод найвышэйшых каштоўнасцей побыту — печ, камінок, агонь, калыска (вялікі лазовы кошык), калаўрот, ночвы і рэшата, вядро з вадою, стол і посуд, хлеб і гарэлка. Падкрэслім, што наяўнасць у хаце хлеба і гарэлкі, паводле пісьменніцы, павінна была засведчыць не толькі пэўны дабрабыт, але і з'явіцца сімвалам гасціннасці сям'і, яе адкрытасці сусвету.

Па-майстэрску выкананы пейзажныя малюнкі, якія выдатна характарызуюць унутраны стан дзейных асоб апавядання. Яны таксама ў аснове сваёй арыентаваны на народную сімволіку. Так, прыёмы псіхалагічнага паралелізму прасочваюцца ў апісанні снежнай віхуры на пачатку і ў канцы апавядання. Як вядома, мастацкі вобраз хмары ў народных уяўленнях звязаны з прадчуваннем нейкай бяды, гора, ён сімвалізуе нагавор і няславу.

Беларускі фальклорны элемент, які шырока выкарыстоўвае Э. Ажэшка, характарызуецца арыгінальнасцю і разнастайнасцю. Ён прадстаўлены ў творы рознымі формамі і жанрамі — прымаўкамі і прыказкамі, праклёнамі, загадкамі, казкамі, песнямі. Неабходна спецыяльна адзначыць і тое, што ў польскім тэксце апавядання «Зімовым вечарам» аўтарка для індывідуалізацыі дзейных асоб ужывае беларускую лексіку. Асобныя народныя песні яна свядома падае ў беларускамоўным варыянце, што варта ўспрымаць як сведчанне глыбокай павагі пісьменніцы да беларускага народа.

Мастацкі метад Э. Ажэшкі, якая распрацоўвала рэалістычны паказ рэчаіснасці, у выкарыстанні фальклору — як для польскай літаратуры — быў досыць арыгінальны. З аднаго боку, нарадазнаўчы кампанент дазваляе гаварыць пра этнаграфічны характар яе рэалізму. У гэтым яе творчасць перагукваецца з класічнымі творамі ўжо згаданых украінскіх празаікаў XIX ст. Паказальна, што яшчэ ў 1886 г. Э. Ажэшка, якая імкнулася глыбей пазнаёміцца з украінскай літаратурай, вывучыць украінскую мову, звярнулася з просьбай да ўкраінскага пісьменніка Аляксандра Каніскага дапамагчы ёй атрымаць творы ўкраінскіх пісьменнікаў. І, як піша польскі даследчык

Т. Зянкевіч у змястоўным фактаграфічным даследаванні «Польскае літаратурнае жыццё ў Кіеве ў 1905–1918 гг.», Э. Ажэшка, дзякуючы А. Каніскаму, а таксама І. Франко, атрымала ўкраінскія кнігі [5, с. 156]. Для нас вельмі важным з'яўляецца той факт, што сярод кніг, атрыманых польскай пісьменніцай, былі творы І. Нячуя-Лявіцкага. Нагадаем, што сучаснік Э. Ажэшкі І. Нячуй-Лявіцкі з'яўляецца выдатным майстрам, класікам побытава-этнаграфічнага рамана, тэарэтыкам пытання фалькларызму мастацкага пісьменства. Пяру пісьменніка належыць «эскіз украінскай міфалогіі» пад назвай «Светапогляд украінскага народа, дапасаваны да сучаснасці». У суверэннай Украіне заснавана прэмія імя І. Нячуя-Лявіцкага, што прысуджаецца літаратарам і мастакам, якія арыгінальна і на высокамастацкім узроўні адлюстроўваюць украінскі нацыянальны характар. Цалкам магчыма, што творы польскай пісьменніцы, знітаваныя беларускай тэматыкай, з'явіліся на свет пад уздзеяннем магічнага нарадазнаўчага стрыжня знакамітага ўкраінскага пісьменніка Івана Нячуя-Лявіцкага.

Літаратура ўкраінскіх пісьменнікаў-народнікаў напрыканцы XIX ст. праходзіла шлях развіцця ад апісальнага этнаграфізму і натуралізму ў напрамку да сінтэтычнасці. Неанароднікі асаблівае значэнне надавалі комплексу ўзаемадачыненняў эстэтыка — мараль. У свае творы яны імкнуліся ўвесці асвятленне рэлігійных пастулатаў маральнасці, якія павінны былі скіроўваць чытача на духоўнае ачышчэнне. Фактычна для тагачаснага мастацтва слова вельмі блізкай стала ідэя дацкага філосафа С. К'еркегара пра магчымасць унутранага перараджэння і ўдасканалення кожнага чалавека пры асэнсаванні свайго месца ў свеце і здзяйсненні выбару ўласнай жыццёвай пазіцыі. Трэба прызнаць, што ў апавяданні «Зімовым вечарам» рэалізуюцца як даўні, так і новы падыход да народнай творчасці, характэрны для мадэрных пошукаў еўрапейскай мастацкай літаратуры пачатку XX ст. І можна нават ставіць пытанне пра меру набліжанасці аўтаркі «Зімовага вечара» да тых пісьменнікаў, якіх — на падставе новага філасофскага асэнсавання фальклору — пачалі характарызаваць як «неарамантыкаў».

З неарамантычным мастацтвам украінскіх празаікаў Э. Ажэшку яднаюць некалькі важкіх момантаў. Фальклорны кампанент пачынае ўваходзіць у мастацкі тэкст не толькі як «каларыт», але і як «перакананні». Паэтыка фальклору выкарыстоўваецца не арнаментальна, а праз светапоглядную канцэпцыю. Праз беларускі фальклорны матэрыял польская пісьменніца імкнулася раскрыць шырокай чытацкай аўдыторыі глыбокі ўнутраны свет беларусаў, іх светапоглядныя, маральныя і этычныя асновы, чысціню, высакароднасць памкненняў і перакананняў — усё тое, што сёння

мы ўкладваем у шырокае паняцце ментальнасці народа. Аднак тыпалагічнае супастаўленне прозы Э. Ажэшкі і прозы яе ўкраінскіх калег высвятляе не толькі агульнае, але і выразна адметнае. Адрознае прадвызначана характарам нацыянальнай ментальнасці, выказнікамі якой павінны былі стаць новыя героі пісьменнікаў-неарамантыкаў. Для ўкраінскіх аўтараў прыёмы неарамантычнага пісьма досыць моцна набліжаны да сімвалізму — як, скажам, у п'есе Лесі Украінкі «Лясная песня». У іншых выпадках, праз вельмі характэрную для ўкраінцаў стыхію лірызму, неарамантычныя творы атрымліваюць у пэўнай ступені сентыментальную афарбоўку, паколькі менталітэт украінцаў абапіраецца пераважна на ўспрыманне рэчаіснасці «праз сэрца». Так званы ўкраінскі «кордацэнтрызм» уключае ў сябе схільнасць народа да мройлівасці. Вельмі ўласцівая ўкраінцам і эмацыянальная рэакцыя на разлад паміж ідэалам і рэчаіснасцю.

Паказальна, што менавіта Леся Украінка вельмі высока цаніла творчасць Э. Ажэшкі. Ведала і любіла творы Э. Ажэшкі, як высветліў вядомы даследчык Ф. Няўважны, і пісьменніца Алена Пчылка, маці Лесі Украінкі [4, с. 183]. У грунтоўным аглядзе «Заметки о новейшей польской литературе», напісаным для пецярбургскай прэсы, Леся Украінка ўпісала творчасць Ажэшкі ў прозу цэлай кагорты «польскіх народнікаў» — Ю. Крашэўскага, Б. Пруса, Г. Сянкевіча, К. Юноша. Леся Украінка, падкрэсліваючы тое, што Э. Ажэшка заўсёды знаходзілася ў творчых пошуках, ставячы ёй у заслугу шырыню тэматычнага дыяпазону, у той жа час адзначала наступнае: «Народничество было только одним из моментов, и Э. Ожэшко могла перестать интересоваться этим моментом, ничуть не изменяя своему гуманизму, которым проникнуты ее произведения» [3, с. 112]. Гэты артыкул з'явіўся ў свет у 1900 г. і быў вынікам назіранняў над творамі польскай пісьменніцы, напісанымі ёю ў XIX ст. Далейшае развіццё творчай індывідуальнасці Э. Ажэшкі, аспрэчыўшы прыватныя заўвагі Лесі Украінкі, пацвердзіла яе галоўныя высновы.

У «Зімовым вечары» Э. Ажэшкі новыя формы мастацкага адлюстравання і аналізу грамадскага жыцця выявіліся праз увагу да беларускага фальклору. Так, у прыватнасці, праз выкарыстанне песень баладнага жанру пісьменніца ўзмацняе і псіхалагізм твора, і сацыяльны аспект характарыстыкі герояў твора. Казачны сюжэт пра трох братоў, які арганічна ўключаны ў сюжэт самога апавядання, гучыць як папярэджанне, працуе на тое, каб рэальна апісаныя падзеі не скончыліся яшчэ адной трагедыяй, якімі так шырока пазначана жыццё.

Такім чынам, асвятленне валявога, актыўнага пачатку ў «нацыянальным» чалавеку дазваляе гаварыць пра неарамантычны стрыжань апавядання «Зімовым вечарам». Галоўная ж стылёвая дамінанта твора выяўляецца ў тым, што пад пяром Э. Ажэшкі неарамантычнае выкарыстанне фальклору спрыяе раскрыццю рэалістычнай дамінанты ў ментальнасці яе герояў — прадстаўнікоў беларускага народа.

## Літаратура


1. Захаржевська, В.О. Українсько-болгарські літературні взаємини кінця XIX — поч. XX ст. / В.О. Захаржевська, В.Н. Климчук, В.А. Москаленко // Слов'янські літератури. X Міжнародний з'їзд славістів: доповіді. — Київ, 1988.
2. Кабржыцкая, Т.В. Фальклор і літаратура: феномен беларуска-польска-ўкраінскага культурнага сумежжа / Т.В. Кабржыцкая, М.М. Хмяльніцкі, Э.Ю. Дзюкава. — Мінск, 2011.
3. Українка, Леся. Твори: в 10 т. / Леся Українка. — Київ, 1965. — Т. 8.
4. Nieuważny, F. Olena Pchilka — popularyzatorka literatury polskiej na Ukrainie // Z dziejów stosunków literackich polsko-ukraińskich / Florian Nieuważny. — Wrocław, 1974.
5. Zienkiewicz, T. Polskie życie literackie w Kijowe w latach 1905–1918 / Tadeusz Zienkiewicz. — Olsztyn, 1990.



*Эла Юр'еўна ДЗЮКАВА*
*(Мінск)*


# УКРАІНСКІ СЯБАР ЭЛІЗЫ АЖЭШКІ АЛЯКСАНДР КАНІСКІ

*(Да 175-годдзя пісьменніка)*

Аляксандр Якаўлевіч Каніскі, актыўны грамадскі і культурны дзеяч, паэт, празаік, драматург, літаратуразнаўца і крытык, нарадзіўся на Чарнігаўшчыне ў 1836 г. Як традыцыйна было ў той час у Расійскай імперыі, куды ўваходзіла большая частка ўкраінскіх зямель, нацыянальна свядомы грамадзянін лічыўся небяспечным, патрапляў пад нагляд паліцыі. У 1863 г. толькі па падазрэнні ў прыналежнасці да антыўрадавай палітычнай арганізацыі Каніскі быў арыштаваны і высланы ў Вологду, затым у Тацьму, хаця не-

пасрэднага ўдзелу ў паўстанні 1863 г. Каніскі не прымаў. У 1866 г. ён атрымаў дазвол вярнуцца на радзіму, аднак нагляд паліцыі з Каніскага быў зняты толькі ў 1872 г. У сувязі з хваробай вачэй Каніскі выязджае на лячэнне ў Нямеччыну. Знаходзячыся за межамі Расійскай імперыі, пісьменнік актыўна збліжаецца з заходнееўрапейскімі пісьменнікамі, найперш галіцкімі культурнымі дзеячамі, польскімі літаратарамі. Пасля вяртання Каніскага з Заходняй Еўропы ў 1885 г. яго жыццё трывала звязана з Кіевам.

Менавіта ў гэтыя гады актыўна наладжвала сувязі з Кіевам Э. Ажэшка. Польская пісьменніца «выслала некалькі лістоў да ўкраінскага паэта А. Каніскага» [7, с. 156]. Як сведчыць сама Э. Ажэшка ў пісьме да І. Франко, Каніскі «быў такі ласкавы», што згадзіўся стаць для пісьменніцы яе ўласным dykcjonarzem — карэспандэнтам-дарадчыкам ва ўкраінскіх пытаннях, якімі яна вельмі зацікавілася [7, с. 156]. Ажэшка мела сувязь з Украінай і праз польскага паэта У. Высоцкага, які жыў у Кіеве. Аднак з ліста Высоцкага да Ажэшкі, напісанага ў лютым 1885 г., можна зразумець, які настрой панаваў у той час сярод творчай інтэлігенцыі. «Рысай сёлетніх кантактаў з'яўляецца агульная прыгнечанасць, банкруцтва, упадак духу, сумненні ў поспеху. З усіх бакоў усё кепска. Знікае нават праменьчык надзеі! Няма канца той страшнай ночы, у якую мы занураны, а світанку яшчэ ні адзін певень не абяцае… Неяк і думкі блытаюцца, і сілы апускаюцца! Мусім зайздросціць каменням, іх неадчувальнасці, звярынаму цярпенню і стойкасці», — пісаў У. Высоцкі да Э. Ажэшкі з Кіева ў 1885 г. [1, с. 122]. Зразумела, такі песімістычны настрой не мог спрыяць развіццю творчых памкненняў.

На іншай аснове фарміравалася ўзаемаразуменне паміж Ажэшкай і Каніскім. Можна меркаваць, што кантакты паміж творцамі былі абумоўлены не толькі прафесійнымі, літаратурнымі інтарэсамі, але і канкрэтыкай біяграфій. Як мы ўжо адзначылі, Каніскага арыштоўвалі, ён быў высланы з родных мясцін у сувязі з падзеямі 1863 г. Аднак не страціў веры ў неабходнасць свайго паклікання як украінскі пісьменнік і грамадскі дзеяч. Вядома, што муж Э. Ажэшкі Пётр Ажэшка і яго брат Фларыян Ажэшка таксама былі арыштаваныя пасля паражэння паўстання 1863 г. і сасланыя ў Сібір. Што датычыць польскай пісьменніцы, то яна ўсім сваім далейшым жыццём пацвердзіла вернасць гуманістычным ідэалам, заўсёдную гатоўнасць да грамадскай працы. І паўстанцкія матывы ў яе творчасці былі вельмі выразнымі.

Каніскі, які не перапыняў актыўнага ўдзелу ва ўкраінскім літаратурным працэсе як паэт і празаік нават знаходзячыся за

межамі роднага краю, быў добра абазнаны ў дасягненнях усяго ўкраінскага пісьменства як на Усходняй, так і на Заходняй Украіне. Цікава адзначыць, што знакамітае Навуковае таварыства імя Тараса Шаўчэнкі, якое ўзяло на сябе ролю каардынатара ўсіх навуковых, творчых, асветніцкіх украіназнаўчых акцый на землях Усходу і Захаду Украіны, было адкрыта ў Львове ў 1873 г. дзякуючы ініцыятыве менавіта Каніскага. Каніскі выступаў у друку з крытычнымі аглядамі творчасці ўкраінскіх пісьменнікаў, трымаў сувязь з украінскімі тэатральнымі і музычнымі дзеячамі. І, як вядома, у выніку перапіскі з Каніскім, якая ўзнікла ў 1886 г., Э. Ажэшка атрымала з Украіны патрэбныя ёй творы. Каніскі быў звязаны творчымі сувязямі з І. Нячуем-Лявіцкім, выступаў як яго рэцэнзент. І менавіта творы гэтага знакамітага майстра ўкраінскай прозы былі найперш дасланы польскай пісьменніцы. Вядома, што Э. Ажэшка змагла азнаёміцца ў арыгінале і з творамі Міхайла Старыцкага, яшчэ аднаго знакамітага ўкраінскага пісьменніка, паэта, празаіка, драматурга, рэжысёра, арганізатара ўкраінскага прафесійнага тэатра.

Перапіска паміж Ажэшкай, кіяўлянінам Каніскім, львавянінам Франко мела вялікае значэнне для ўзбагачэння міжлітаратурных кантактаў. Вядома, што Франко, які быў выдатным знаўцам польскай літаратуры, як крытык і літаратуразнаўца вельмі высока цаніў талент Э. Ажэшкі, ставіў яе імя побач з імёнамі польскіх літаратурных класікаў Г. Сянкевіча, Б. Пруса, меркаваў перакласці яе творы на ўкраінскую мову. Да папулярызацыі твораў Ажэшкі сродкамі роднай украінскай мовы далучыўся і М. Старыцкі. Трэба сказаць, што Старыцкі, звярнуўшыся да апавядання Ажэшкі «Зімовым вечарам», здзейсніў украінамоўную апрацоўку твора. Гэты дзеяч украінскай культуры, надзелены ад прыроды шматгранным талентам, імкнучыся да пашырэння рэпертуару ўкраінскага тэатра, узначаліўшы перасоўную трупу акцёраў, пісаў не толькі ўласныя драматычныя творы, але ствараў і таленавітыя інсцэнізацыі — паводле аповесцей М. Гогаля, І. Нячуя-Лявіцкага, Ю. Крашэўскага. Пад пяром Старыцкага калізіі «Зімовага вечара» былі пераведзены ў сцэнічны варыянт. Украінская назва спектакля, створанага паводле «Зімовага вечара» Ажэшкі, — драматычны эцюд *«Пропащий»* (1883). Ён з поспехам ставіўся на ўкраінскай сцэне і ў XIX ст., і ў XX ст. групамі артыстаў пад кіраўніцтвам Марыі Занькавецкай, Міколы Садоўскага, якія лічацца карыфеямі ўкраінскага тэатра.

Заўважым, што зацікаўленне творчасцю Ажэшкі Міхайла Старыцкі перадаў і свайму стрыечнаму брату, знакамітаму кампазітару, заснавальніку ўкраінскай класічнай музыкі і нацыянальнай оперы Міколу Лысенку, з якім яны выхоўваліся разам у сямейнай атмасферы павагі да вяскоўцаў, украінскай культуры,

нацыянальнага слова і меласу. М. Лысенка і М. Старыцкі ў 1908 г. арганізавалі дзейнасць кіеўскага тэатральна-літаратурнага таварыства «Украінскі клуб». Ганаровым членам клуба была абраная і Э. Ажэшка. Заўважым, што сувязі з Старыцкім актывізавалі Э. Ажэшку да перакладчыцкай працы: польская пісьменніца перакладала яго прозу.

Вяртаючыся да асобы А. Каніскага, адзначым, што яго знаёмства з Э. Ажэшкай, уклад у наладжванне міжлітаратурных кантактаў таксама мелі разнастайныя творчыя праявы. Так, Каніскі пераклаў на ўкраінскую мову тры апавяданні Э. Ажэшкі, якія ў новым моўным узнаўленні атрымалі назвы *«Великий»* (1895), *«Останнє кохання»*, *«Ані на ступінь»* (1898). Можна меркаваць, што ўкраінскі сябар Э. Ажэшкі збіраўся працягваць творчыя дыялогі з ёю. Аднак у 1900 г. жыццё А. Каніскага абарвалася.

Пераглядаючы апошняе выданне твораў Аляксандра Каніскага, якое выйшла ў 1986 г. у Кіеве, мы не знайшлі ў ім узораў яго перакладчыцкай дзейнасці, хаця вядома, што Каніскі перакладаў шмат — і з рускай, і з заходнееўрапейскіх літаратур. У грунтоўным аглядзе творчай дзейнасці ўкраінскага пісьменніка «Аляксандр Каніскі і яго проза», змешчаным у выданні ў якасці вялікай прадмовы, шырока і высока ацэньваецца падзвіжніцкі энтузіязм Каніскага, з якім ён узнаўляў на ўкраінскай мове рускамоўныя тэксты Т. Шаўчэнкі. Аўтар прадмовы М. Сывачэнка згадвае працу Каніскага як перакладчыка з розных нацыянальных літаратур — твораў І. Крылова, К. Рылеева, М. Лермантава, Дж. Байрана, Ф. Шылера, А. Мюсэ, Ф. Фрэйліграта. Аднак пра яго пераклады твораў Э. Ажэшкі нават не ўпамінаецца. Звярнуўшыся да працы літаратуразнаўца П. Храпко, які выступіў з рэцэнзіяй на выданне твораў А. Каніскага 1986 г., мы таксама не адшукалі ў ёй ніякай інфармацыі пра сувязі Каніскага з культурай і літаратурай Польшчы. Праўда, П. Храпко закранае пытанне перакладчыцкай дзейнасці Каніскага. Зыходзячы з яго публікацыі, можна зразумець, што Каніскаму належаць толькі «пераклады з расійскай, нямецкай, англійскай, сербскай літаратур» [6, с. 51].

Разгледжаныя літаратуразнаўчыя і крытычныя матэрыялы, як бачым, пісаліся яшчэ ў даперабудоўчы час. Таму шмат высноў адносна творчай дзейнасці Каніскага рабілася, як бачна з матэрыялу П. Храпко, з «пазіцый марксісцкага літаратуразнаўства» [6, с. 52]. Відавочна, патрабуе перагляду і такі папрок пісьменніку, як «вузкасць» яго «ліберальна-буржуазных, культурна-асветніцкіх ідэалаў». У артыкуле пра А. Каніскага М. Ткачука, змешчаным у энцыклапедычным даведніку «Украінская літаратура ў партрэтах і да-

ведках», што выйшаў у свет у 2000 г., ужо адзначаюцца многія рысы творчай спадчыны пісьменніка як вызначальныя для ўкраінскага літаратурнага працэсу XIX ст. «Найпаўней талент А. Каніскага расквітнеў у белетрыстычных творах, якімі ён пашырыў праблематыку, жанрава-стылёвыя рамкі ўкраінскай прозы. У апавяданнях і аповесцях з «народнага жыцця» характары дэтэрмінаваныя, канфлікты востра сацыяльныя. Гэтыя творы багатыя на тыповыя абагульненні і вызначаюцца ўменнем адлюстроўваць дынаміку характараў. А. Каніскі бачыў у сялянстве не аб’ект спагады і жалю, апекі, ён бачыў у вяскоўцах самастойную сілу, якая, пераадольваючы ліхія абставіны, абуджаецца да новага жыцця» [4, с. 157]. Магчыма, менавіта гэтыя якасці твораў Аляксандра Каніскага прываблівалі і Элізу Ажэшку…

Увогуле ж, як адзначаюць самі ўкраінскія навукоўцы, «даследавалася творчасць Каніскага вельмі скупа» [6, с. 51]. Хаця, як мы ведаем, яшчэ І. Франко адзначаў яго «рухомы і living» талент, «па-мастацку вельмі каштоўныя апавяданні Каніскага з украінскага народнага жыцця, кароткія эскізы, напісаныя з досціпам і гумарам» [5, т. 41, с. 499]. Уважлівае прачытанне перапіскі польскай пісьменніцы з украінскімі літаратарамі, у тым ліку і з Аляксандрам Каніскім, дазволяць больш яскрава ўбачыць і карціну іх творчага сяброўства, і шляхі ўзбагачэння нацыянальных літаратур.

## Літаратура


1. Архіў Элізы Ажэшкі, IBL PAN. Цыт. па: Zienkiewicz, Tadeusz. Polskie życie literackie w Kijowe w latach 1905–1918 / Tadeusz Zienkiewicz. — Olsztyn, 1990.
2. Кониський, О. Вибрані твори / О. Кониський. — Київ, 1986.
3. Сиваченко, М. Олександр Кониський і його проза / М. Сиваченко // Олександр Кониський. Вибрані твори. — Київ, 1986.
4. Ткачук, М. Олександр Кониський / М. Ткачук // Українська література в портретах і довідках: Давня література — література XIX ст. — Київ, 2002.
5. Франко, І. Зібрання творів: у 50 т. / І. Франко. — Київ, 1984.
6. Хропко, П. О. Кониський і його спадщина / П. О. Хропко // Радянське літературознавство. — 1986. — № 8.
7. Zienkiewicz, T. Polskie życie literackie w Kijowe w latach 1905–1918 / T. Zienkiewicz. — Olsztyn, 1990.

*Алена Алёйзаўна МАНКЕВІЧ*
*(Мінск)*

# «ТО НАЙМАЦНЕЙШАЯ АСНОВА І ЖЫЦЦЯ ПЕРШАЯ ЎМОВА...»

## *(«Чалавек на зямлі» ў рамане Э. Ажэшкі «Над Нёманам» і паэме Якуба Коласа «Новая зямля»)*

Асноўнай характарыстыкай эпічнага твора з'яўляецца не толькі грунтоўны паказ чалавечых характараў, глыбіні і шматаспектнасці ўнутранага свету чалавека. Адна з галоўных адзнак эпічнасці — шырыня ахопу жыццёвага матэрыялу, роздум над прычыннавыніковымі сувязямі ва ўсім тым, што вакол чалавека, з чым яму даводзіцца сутыкацца на жыццёвым шляху. Менавіта пра такі маштабны, панарамны малюнак розных сфер чалавечага жыцця, розных пластоў грамадства, разнастайных праблем эпохі канца XIX — пачатку XX стагоддзя мы маем права гаварыць пры аналізе рамана Элізы Ажэшкі «Над Нёманам» і паэмы Якуба Коласа «Новая зямля».

Тое, што творчасць абодвух пісьменнікаў з'яўляецца шматпраблемнай, ужо неаднаразова адзначалася даследчыкамі іх мастацкай спадчыны. Аднак у шырокім спектры праблем, да вырашэння якіх звярталіся і Э. Ажэшка, і Якуб Колас, цэнтральнай бачыцца праблема зямлі. Менавіта ў яе святле найбольш поўна выявіліся іх творчыя індывідуальнасці, іх аўтарскае крэда і, безумоўна, здольнасць тонка адчуваць і адлюстроўваць чалавечую псіхалогію.

У першую чаргу гэта датычыцца тых граняў праблемы, праз якія паўней прасвечвае ўнутраны свет героя, яго псіхалогія: «хто ён, гэты чалавек на зямлі, гаспадар ці "насенне лопуху"?», «што ён павінен зрабіць для таго, каб ажыццявіць свае намеры і памкненні?», «у чым сэнс яго жыцця?»

І Колас, і Ажэшка настойліва шукалі адказы на гэтыя і звязаныя з імі пытанні ў многіх творах, якія яны пісалі на працягу ўсяго творчага шляху. Адпаведна і праблема зямлі паварочвалася ўсё новымі і новымі гранямі. А найбольшую цікавасць, на нашу думку, уяўляе якраз тая грань праблемы, якую можна назваць «чалавек на зямлі». Менавіта гэтыя дзве субстанцыі і вызначаюць аўтарскую канцэпцыю свету, дапамагаюць паглыбіцца ў тайны чалавечай душы, зразумець шмат якія ўчынкі герояў, канцэпцыю, якая, безумоўна, найбольш поўна і ўсебакова выявілася ў рамане «Над Нёманам» і паэме «Новая зямля».

Праблема зямлі, як вядома, універсальная. Яна вядзе за сабой вырашэнне і шэрагу іншых праблем — нацыянальных, гістарычных, побытавых. Таму зварот да яе кожны раз адкрывае новыя аспекты мастацкага свету кожнага пісьменніка.

Калі раман Элізы Ажэшкі «Над Нёманам» быў перакладзены на беларускую мову, чытач атрымаў выдатную магчымасць пазнаёміцца з асвятленнем пісьменніцай тых праблем, якія на працягу доўгіх гадоў хвалявалі не адно пакаленне прадстаўнікоў польскага і беларускага народаў, і перш за ўсё праблемы месца чалавека на зямлі, з адлюстраваннем жыцця на гэтай зямлі розных пластоў тагачаснага грамадства. Бо, як вядома, так усебакова, жыва і дакладна, як мастацкі твор, жыццёвую плынь не можа адлюстраваць ніводная гістарычная крыніца. Асабліва калі гаворка ідзе пра творы такога ўзроўню.

У цэнтры рамана «Над Нёманам» — гаспадар Багатыровіч, чалавек, які непарыўнай повяззю злучаны з прыродай, з грамадою, у якой ён вырас, з якою дзеліць адзін лёс і без якой сябе не ўяўляе. Ён і жыхары засценка, дзе жыве, атрымліваюць сапраўдную радасць ад працы. У іх ёсць шчырае жаданне пражыць паўсядзённае жыццё лёгка. Яны ўмеюць аказаць адзін аднаму ўзаемную дапамогу і падтрымку. Сяляне хоць і стамляюцца ад выканання сваіх штодзённых абавязкаў, але не наракаюць на працу, не праклінаюць яе і не лічаць бессэнсоўнымі свае старанні. Для іх праца — вышэйшая каштоўнасць і мера чалавечнасці, а намаганні, з ёй звязаныя, надаюць сэнс іх жыццю і ўзбагачаюць яго.

«Яшчэ за некалькі тыдняў да жніва ў Багатыровічах панавала вялікае ажыўленне, усе толькі тое і рабілі, што мылі і шылі. Да гэтых адказных дзён рыхтаваліся як да вялікага свята» [1, с. 192].

Ці ж не тое самае можна сказаць пра большасць герояў Коласа, і перш за ўсе — пра герояў паэмы «Новая зямля» — Міхала і Антося?! Творчыя пазіцыі і Коласа, і Ажэшкі асабліва блізкія ў момантах абмалёўкі працы хлебароба. Гэта паэтызацыя працы, узняцце яе на найвышэйшы ўзровень чалавечай дасканаласці, не толькі фізічнай, але перш за ўсё духоўнай прыгажосці.

«І ў Элізы Ажэшкі і ў Якуба Коласа культ працы набывае самастойнае значэнне, і ён у абодвух канкрэтных выпадках становіцца неадымнай часткай агульнай панарамы, якая ў гэтых творах прадвызначана галоўнымі заканамернасцямі існавання грамадства — безадносна да нацыянальнага ўсведамлення паасобных яго слаёў ці груп» [2, с. 8], — заўважыў У. Казбярук.

Аўтары ўвесь час імкнуцца як мага больш поўна і дакладна перадаць не толькі адчуванні, перажыванні і іншыя эмацыяналь-

ныя зрухі душы героя, — яны паступова прыходзяць да пошукаў унутранай сувязі паміж побытавымі і быційнымі праблемамі, знешнімі праяўленнямі рэчаіснасці і глыбіннымі пластамі чалавечай псіхалогіі.

Здавалася б, назваўшы паэму «Новая зямля», у якой праблема зямлі стала цэнтральнай, «энцыклапедыяй сялянскага жыцця», літаратуразнаўцы выключылі магчымасць размовы пра нейкія іншыя павароты асэнсавання гэтай праблемы. Аднак зразумела, што паняцце «энцыклапедыя», якое нібыта ўказвае на вычарпальнасць, — толькі метафара. Бо і перад тым, як узняцца да «энцыклапедычнага» ўзроўню ўсведамлення адной з цэнтральных праблем творчасці, і пасля таго Колас звяртаўся да яе амаль у кожным сваім творы. Пра што б ён ні пісаў, якія б іншыя праблемы ні асэнсоўваў, зямля заўсёды выступала важнай мерай вартасці.

Шмат напісана даследчыкамі літаратуры пра плённае выкарыстанне Коласам творчага вопыту даследавання акрэсленай праблемы сваімі папярэднікамі з суседніх літаратур, перш за ўсё А.С. Пушкіна і А. Міцкевіча. Аднак, як справядліва заўважыў У. Казбярук, «…да гэтага часу ў сувязі з гутаркай пра коласаўскі твор («Новая зямля». — *А. М.*) ні разу не пачыналася гаворка пра творчы вопыт Элізы Ажэшкі, не ўсплываў яе раман «Над Нёманам» [2, с. 7]. Такая гаворка, на думку даследчыка, апраўдана яшчэ і па той прычыне, што і раман «Над Нёманам», і паэма «Новая зямля», як, дарэчы, і паэма А. Міцкевіча «Пан Тадэвуш», — гэта творы, дзе перад чытачом паўстаюць панарамныя малюнкі жыцця, па сутнасці на адной і той жа наднёманскай зямлі, хоць і ў розныя перыяды яе гісторыі. А падзеі ў творах Якуба Коласа і Элізы Ажэшкі нават не аддзелены працяглым адрэзкам часу.

Якуб Колас у многіх сваіх творах падкрэслівае, што селянін, ды і наогул чалавек, па сваёй прыродзе — уласнік. Таму яго здаровае імкненне мець нешта сваё, быць гаспадаром на сваім кавалку поля ў Коласа заўсёды ўхвалялася, узвышалася і тлумачылася як з'ява заканамерная і жыццёва важная. У сялянскім і Коласавым разуменні гаспадар — гэта той, хто не проста валодае нечым, а ўсе свае намаганні кладзе на карысць таго, чым валодае. Яркім прыкладам людзей, што ўвасобілі гэтыя якасці, з'яўляюцца героі паэмы «Новая зямля» Міхал і Антось. Калі яны першы раз змянілі месца жыхарства, ім дасталася зямля, якую добрай не назавеш:

Але бязгнойная, пустая
Зямлі валока была тая,
Дзе рос сівец і пырнік густа
І дзе спакойна каля куста

Ляжаў шарак, бо там ніколі
Саха зямлі не бараздзіла.

[4, с. 28]

Дзякуючы, аднак, стараннай працы Міхала і Антося, гэта бязгнойная зямля-пустэча набывае зусім іншы выгляд:

У тым кутку глухім і дзікім
Стараннем дзядзькавым вялікім
І цяжкай працай хлебароба
Набыта розная надоба;
Ўсё зацвіло, загаманіла,
Бы жыватворчая тут сіла
Ад сну прыроду абудзіла.
Гумно паўнела з кожным годам,
І багацеў хлявец прыплодам,
І грош стаў лішні завадзіцца,
Было што есці, чым акрыцца,
І быў парадак, лад у хаце.

[4, с. 30]

«Жыватворчая сіла» чалавечай працы вяршыць цуды, ператварае пустэчу ў квітнеючы сад, прыносячы тым самым радасць чалавеку, задавальненне яго патрэб.

Непаўторныя таксама малюнкі прыроды ў абодвух творах. Асаблівую ролю ў апісанні прыроды адыгрывае Нёман, які аб'ядноўвае фабулу твораў і ўсе іх матывы. Праз вобраз ракі падкрэсліваецца вечнасць прыроды — бо менавіта Нёман разам з навакольнымі пушчамі даваў прытулак і ежу легендарным заснавальнікам сямей, што насялялі яго берагі, і на працягу многіх гадоў станавіўся сведкам трагічных падзей. Рака стала сімвалічнай, святой і ідэнтыфікуецца з асноўнай ідэяй твораў — ідэяй вернасці роднай зямлі.

Прырода Наднямоння — сімвал краіны шчасця, якая ўяўляе сабой ідэальнае месца жыцця для людзей. Яна ніколі не пагражае чалавеку, калі ён жыве з ёй у гармоніі. Прырода выступае свайго роду ацэначным фактарам для герояў — тыя, хто знаходзіцца ў моцнай узаемасувязі з зямлёй і жыве ў гармоніі з прыродай, заслугоўваюць асаблівай павагі аўтараў. Адсутнасць кантакту з прыродай, на іх думку, становіцца прычынай выраджэння чалавека, робіць яго слабым, стомленным ад жыцця.

Разамкнуць свет маленькага чалавека, рассунуць яго межы да маштабаў гісторыі — вось задача, якую паспяхова вырашаюць або-

два пісьменнікі ў лепшых сваіх творах. Бо эпас, як вядома, — гэта адзінства чалавека і свету, прыроды і культуры, асобы і гісторыі, аб'ектыўнай і суб'ектыўнай падзеі і паэтычнага апавядання пра яе. «Чалавек, на якой бы стадыі развіцця ён ні знаходзіўся, адчувае непераадольную патрэбу выйсці за рамкі індывідуальнага… адчуць сябе часткаю калектыўна-гістарычнага працэсу» [3, с. 36], — адзначыў А.Л. Казін.

Праз паказ чалавека — сапраўднага гаспадара праблема месца чалавека на зямлі стала дэтэрмінантай не толькі псіхалагічнага, але і эпічнага пачатку ў творах. У лёсе галоўных герояў — сям'і Багатыровічаў у рамане «Над Нёманам» і Міхала і Антося ў паэме «Новая зямля» — адбітак эпохі, прычым не механічнае яе адлюстраванне. Час перанёс на гэтыя лёсы ўсю глыбіню і складанасць як асобных момантаў, так і цэласнага няпростага настрою іх гістарычнага часу.

## Літаратура


1. Ажэшка, Эліза. Над Нёманам / Эліза Ажэшка. — Мінск, 2003.
2. Казбярук, У. Панарамны малюнак жыцця / У. Казбярук // Над Нёманам / Эліза Ажэшка. — Мінск, 2003.
3. Казин, А. Художественный образ и реальность / А. Казин. — Л., 1985.
4. Колас, Якуб. Новая зямля. Сымон-музыка / Якуб Колас. — Мінск, 1986.

# Вучоныя XX–XXI стст. да юбілею Элізы Ажэшкі

*Елена НЕЛЕПКО*
*(Гродно)*

## ТВОРЧЕСТВО ЭЛИЗЫ ОЖЕШКО В ЭСТЕТИЧЕСКОМ ПРОСТРАНСТВЕ СОВРЕМЕННОСТИ[1]

Увековечение памяти Элизы Ожешко для гродненцев — святая обязанность. Писательница почти всю жизнь прожила в Гродно, несмотря на полицейский надзор и преследования со стороны властей царской России. В Гродно и о Гродно она создала свои лучшие произведения, спасала людей во время пожара, помогала погорельцам, сочувствовала населяющим окраины города беднякам.

Благодаря творчеству Элизы Ожешко Гродно и наднеманские земли обрели мировую известность. Писательница сумела показать «красоту этого края, его величественную историю и трагическую современность (вторая половина XIX века): национальный гнет и социальную несправедливость, подавление восстания 1863 года и жестокую расправу царизма с его участниками».

Гродно свято хранит память о великой землячке. И в данном случае можно сказать, что местные жители создали ей своеобразный культ. На могиле писательницы не увядают живые цветы. У ее памятника непременно останавливаются туристы. В доме, где она жила, создана музейная экспозиция, посвященная жизни и творчеству писательницы. Регулярно проводятся в ее честь научные конференции.

И все же интеллектуально-материальным увековечением памяти об Элизе Ожешко являются книги. Можно предположить, что

---

[1] Статья является презентацией сборника «Творчество Элизы Ожешко в эстетическом пространстве современности» (сб. науч. раб. / С.Ф. Мусиенко [гл. ред.] — Гродно : ГрГУ, 2011).

научные исследования об Ожешко намного превышают объем ее богатого творчества. Однако каждое новое поколение ученых находит в нем свою исследовательскую нишу. А если живет интерес к творчеству, значит, живет и его создатель.

Свидетельством этому служит и представляемый сборник научных статей **«Творчество Элизы Ожешко в эстетическом пространстве современности»**. Эта книга имеет важную особенность: она является первой публикацией, осуществленной научно-дидактическим координационным центром «Международный институт Адама Мицкевича», который был создан 26 октября 2009 года.

Итак, авторами исследований, помещенных в сборнике, являются как важнейшие ученые трех государств — Беларуси, Польши, России, так и представители молодого поколения, начавшие свой творческий путь в XXI веке.

Сборник состоит из двух частей. В первой из них представлены исследования, посвященные творчеству Элизы Ожешко. Название второй части взято из первой книги об Ожешко, изданной в Гродно и приуроченной к открытию ее памятника в 1929 году, — «Elizie Orzeszkowej — w hołdzie».

Хочется особо подчеркнуть, что все исследования первой части представляют имагологический подход к творчеству писательницы и являются своеобразным диалогом во времени. Панораму развития польской и русской литератур представил В.А. Хореев (Институт славяноведения РАН, Москва) — «Варшавские позитивисты о России и русской литературе». Гражина Борковска (Институт литературных исследований ПАН, Варшава) в статье «Miejsce Orzeszkowej» показала значимость Ожешко в современной культуре. О роли Гродно в жизни и творчестве Ожешко рассказала С.Ф. Мусиенко (ГрГУ) — «Элиза Ожешко в эстетическом пространстве Гродненщины». В статье «Nad kompozycją dojrzałej prozy Elizy Orzeszkowej» Кристины Яковской (Университет в Белостоке) впервые решается проблема формы как явления в творчестве Ожешко. Как всегда эмоционально и научно убедительно раскрыл причины популярности Ожешко в современности Юзеф Бахуж (Гданьский университет) — «Dlaczego Orzeszkowa?». Эугениуш Кабатц (Варшава) подчеркнул связь Элизы Ожешко с белорусской землей. А о роли, которую сыграло Гродно в судьбе Ожешко, рассказала Галина Бурштыньска (Педагогический университет, Краков). Оригинальный аспект творчества Ожешко представил Тадеуш Будревич (Педагогический университет, Краков) в статье «Ptaki i ludzie w opowiadaniach Orzeszkowej». Женской проблематике посвятили свои работы исследователи из Гродно Елена Билютенко, Николай Гринько и из Гданьска Эва Грачик, Моника Помирска. Раз-

личные аспекты темы восстания 1863 года в сборнике прозы Элизы Ожешко «Gloria victis» заинтересовали Анну Кежунь (Университет в Белостоке), Аллу Петрушкевич (ГрГУ), Николая Хмельницкого (БГУ). Барбара Олех (Университет в Белостоке) обратилась к малоисследованному произведению Ожешко «Дни», рассматривая как свидетельство «одиночества среди людей». Оригинальное решение проблемы сравнительно-типологического характера «Ожешко — Конопницкая» представили Ярослав Лавский и Анна Яницка из Университета в Белостоке.

Лингвистическим проблемам творчества Ожешко посвятили свои статьи Виктор Истомин (ГрГУ), Мария Лизис (Педагогический университет, Краков), Оксана Шевцова (ГрГУ), Анна Овчинникова (ГрГУ), Катерина Кончевская (Гродно). Теоретический контекст языковедческий исследований рассмотрела Эльжбета Рудницка-Фира (Педагогический университет, Краков).

Своеобразную научно-аналитическую панораму литературоведческих исследований польских, белорусских и русских ученых, методик преподавания литературы, фольклора, языкового своеобразия художественных произведений представили авторы второй части сборника. Игорь Жук (ГрГУ) рассказал о своей авторской методике исследования, которая стала новым направлением в литературоведении, помогающим распознавать авторство прозы («Колан як “пачатак” мастацкага маўлення»). Зофья Будревич (Педагогический университет, Краков) «Wędrówki po puszczach kresowych w międzywojennej literaturze dla młodzieży» и Малгожата Черминьска (Гданьский университет) «Znaczenie miejsca geograficznego w biografii i twórczości pisarza (w ujęciu geopoetyki)» обратились к анализу факторов, помогающих раскрывать значимость художественного текста. Жанна Ерома (Лингвистический университет, Москва), Алина Павлюкевич (ГрГУ) исследовали особенности и изменения в славянских языках. Николай Данилович (ГрГУ) и Валентина Маршевская (ГрГУ) обратились к фразеологии белорусского и польского языков. К уникальным можно отнести статью Кристины Щесняк (Гданьский университет) «Lekarowanie i wiedźmarowanie związane z brzozą na pograniczu wschodniej i zachodniej słowiańszczyzny», в которой исследуются фольклорно-семантические особенности языков восточнославянского ареала. В исследованиях Дмитрия Лебедевича (ГрГУ) и Владимира Каяло (ГрГУ) решаются проблемы влияния на литературный процесс традиций античности и культуры Киевской Руси. Вопросы литературного мифа рассмотрены в статье Светланы Гончар (ГрГУ). Проблемы белорусского менталитета стали предметом исследования Руслана Козловского (ГрГУ). Теоретический аспект художественных произведений литературы заинтересовал

Надежду Чукичёву (ГрГУ). Ольга Свительская, Ирина Каяло, Наталья Миленкевич и Юлия Петрович — молодое поколение ученых Гродненского университета — удачно представили свои первые исследования, которые легли в основу их диссертаций.

Поэтическим подведением итогов стали произведения современных исследователей и поэтов, посвященные Ожешко: фрагмент поэмы «Зямлі і людзям» Любови Русилко и лирика из цикла стихотворений Аллы Петрушкевич «Паводле навэлы Элізы Ажэшкі “Gloria victis”».

Сборник «Творчество Элизы Ожешко в эстетическом пространстве современности» представляет несомненную ценность и для ученых, и для массового читателя, интересующегося творчеством Ожешко.

Важным дополнением сборника служат фотографии мест, связанных с жизнью и творчеством Элизы Ожешко.

*Мікалай ХМЯЛЬНІЦКІ*
*(Мінск)*
*Міхась КЕНЬКА*
*(Мінск)*

## ФАЛЬКЛОР І ЛІТАРАТУРА. ФЕНОМЕН БЕЛАРУСКА-ПОЛЬСКА-ЎКРАІНСКАГА КУЛЬТУРНАГА СУМЕЖЖА
*(прэзентацыя)*

Кніга кандыдатаў філалагічных навук Т.В. Кабржыцкай, М.М. Хмяльніцкага і Э.Ю. Дзюкавай «Фальклор і літаратура. Феномен беларуска-польска-ўкраінскага культурнага сумежжа», выпушчаная выдавецтвам «Кнігазбор» у 2011 годзе, адметная тым, што ў ёй разглядаюцца сувязі, якія лучаць фальклор і літаратуру трох народаў-суседзяў, блізкіх па мове, асаблівасцях развіцця гістарычнага, культурнага і літаратурнага працэсаў. Перад аўтарамі стаяла вельмі няпростая задача: прасачыць гэтыя сувязі па многіх прыкметах, праяўленнях, вызначыць тыя агульныя тэндэнцыі, якія збліжалі фальклор і літаратуру беларусаў, украінцаў і палякаў на працягу ўсіх стадый развіцця творчай думкі гэтых народаў.

Аўтары вучэбнага дапаможніка засяроджваюць увагу на такіх пытаннях, як роля культурна-этнаграфічнага сумежжа ў працэсе

станаўлення нацыянальнай самабытнасці народаў, іх фальклору і літаратур. Вывучэнне спецыфікі форм уключанасці народнай культуры ў аўтарскую пісьменніцкую творчасць дазваляе выразней убачыць праявы міжнацыянальных сувязей, узоры ўзаемапранікнення нацыянальных прыкмет, творчага ўзбагачэння прадстаўнікоў адной культуры за кошт звароту да багаццяў культуры суседзяў.

Да апошняга часу вучоныя, звяртаючыся да высвятлення праблем узаемадзеяння паміж нацыянальнымі літаратурамі, здзяйснялі свае навуковыя пошукі пераважна ў рэчышчы бікультурных кантактаў. У нашай краіне апублікаваны калектыўныя даследаванні беларуска-рускіх — «Нарысы па гісторыі беларуска-рускіх літаратурных сувязей. У 4 кн.» (1993–1995), беларуска-ўкраінскіх літаратурных кантактаў — «Нарысы беларуска-ўкраінскіх літаратурных сувязей: культурна-гістарычны і літаратуразнаўчы аспекты праблемы» (2002). Існуюць і паасобныя манаграфіі, прысвечаныя двухбаковым сувязям — беларускай літаратуры з літаратурамі паўднёвых, заходніх славян. Сёння ў агульнаеўрапейскім маштабе становіцца відавочнай неабходнасць расшыранага вывучэння культурнай сферы тых народаў, якія ў выніку пэўных гістарычных акалічнасцей знаходзіліся ў стане цеснага ўзаемадзеяння.

У выданні «Фальклор і літаратура. Феномен беларуска-польска-ўкраінскага культурнага сумежжа» ўпершыню здзяйсняецца комплексны міждысцыплінарны разгляд агромністага гісторыка-геаграфічнага рэгіёна, прадстаўленага трыма народамі — беларусамі, палякамі, украінцамі, што праз стагоддзі не толькі жывуць на сумежных тэрыторыях, але і доўгі час уваходзілі ў склад аднаго дзяржаўнага ўтварэння. Аналіз асаблівасцей этнічна блізкай кантактнай зоны трох народаў ахоплівае велізарны перыяд: ад сітуацый узаемадачыненняў паміж протадзяржаўным насельніцтвам да сучаснага стану функцыянавання нацыянальных літаратур.

Аўтары зыходзяць з таго, што развіццё індывідуальнай пісьменніцкай працы заўсёды знаходзілася ў іманентнай залежнасці ад вуснай народнай творчасці, ад скарбаў фальклору, што было абумоўлена як аб’ектыўнымі, так і суб’ектыўнымі прычынамі. Таму ў выданні шмат увагі звяртаецца на міфалагічныя і фальклорныя чыннікі літаратурнага працэсу. Матэрыял скампанаваны паводле храналогіі гісторыка-літаратурных эпох, зарыентаваны на грунтоўнае асэнсаванне і літаратурнага працэсу, і тэарэтыка-літаратуразнаўчых паняццяў.

Зразумела, манаграфія, як першы подступ да прапанаванай тэмы, не прэтэндуе на вычарпальнасць. Аўтарам выдання ёсць дзе развінуцца, каб ператварыць яе ў яшчэ больш ёмістае да-

следаванне, больш шырокае, усёабдымнае. А у прадстаўленым выглядзе кніга ўжо сёння служыць навуцы, з'яўляецца добрым апірышчам і дапаможнікам падчас чытання курсаў параўнальнага літаратуразнаўства, фальклярыстыкі, гісторый беларускай, украінскай, польскай літаратур.

***Светлана ГОНЧАР***
***(Гродно)***

## ЛИНГВОКУЛЬТУРОЛОГИЧЕСКАЯ ПАРАДИГМА В СОВРЕМЕННЫХ ИССЛЕДОВАНИЯХ

*(презентация)*

Сборник статей «Лингвокультурологическая парадигма в современных исследованиях» составлен на основе докладов, прочитанных на одноименной международной научно-практической конференции, проходившей 7–10 ноября 2010 г. в Гродненском государственном университете имени Янки Купалы. Ученые из Беларуси, России, Польши, Германии, Швеции представили на обсуждение научной общественности свое видение роли и места человека в коммуникативном пространстве, антропоцентризма в языковой картине мира, семантики и прагматики дискурса и художественного текста, диалога культур в процессе обучения.

Сборник включает четыре раздела, представляющие четыре основных тематических потока конференции.

Раздел «Лингвокультурологическая интерпретация текста» объединил исследователей языков и литератур в попытке понять, какие модели реализуют контакт общества с миром, как информация о мире материализуется, фиксируется и циркулирует, то есть хранится и передается внутри общества.

Профессор Е.Г. Задворная (Минск) представила в своем докладе национально-культурные и социоролевые факторы речевого поведения в разрезе лингвокультурной специфики дискурсивных жанров и особенностей тактико-стратегической организации речевого поведения носителей различных коммуникативных культур.

Проблеме художественного переосмысления жизни великих людей, их своеобразной мифологизации в литературном творчестве посвящена статья профессора С.Ф. Мусиенко (Гродно) «Миф любви Жорж Санд и Фредерика Шопена в документах и литературе». История любви двух выдающихся людей своего времени предстает

не только документально, на материале писем и дневниковых записей самих участников событий и их современников, но с помощью художественного восприятия этой истории любви польским драматургом Ярославом Ивашкевичем, который дает ей собственную интерпретацию в драме «Лето в Ноане».

Актуальные проблемы интерпретации художественного и научно-популярного текста были представлены также в докладах С.В. Гончар (Гродно) "Похищение языка": От истории к мифу»; Д.Н. Лебедевича (Гродно) «Шамсіддзін Хафіз і Франчэска Петрарка: тыпалагічны аспект творчасці»; И.В. Банах (Гродно) «Автор и читатель в русских литературных путешествиях конца XVIII — начала XIX в.», И.А. Болдак и Н.А. Буденис (Гродно) «Коммуникативное взаимодействие между автором и читателем в научно-популярном тексте», В.В. Кузьмич и М.А. Карловой (Мозырь) «Травестирование как способ интерпретации претекста», С.С. Костыревой (Витебск) «Средства создания подтекста в художественном тексте: лингвокультурологический аспект» и др.

Зарождению новой лингвистической дисциплины — лингвополитологии, охватывающей такие актуальнейшие направления исследований, как языковая идеология, языковая макрополитика (внешняя политика), языковая внутренняя политика, теория управления языковыми ресурсами и технология языкового развития, посвящена статья профессора С.В. Гринева-Гриневича (Москва, Белосток) «Терминология и языковая политика».

Вопросы концептуализации языковой картины мира, глобализации языка и ее последствий, гендера и гендерных особенностей языка были рассмотрены в статьях И.В. Сорокиной (Гродно) «Реалии в структуре языковой картины мира мексикано-американцев», Т.А. Кожуриной (Могилев) «Душа как один из ключевых концептов языковой картины мира Г. Конисского», А.А. Кожиновой, Е.А. Широковой (Минск) «Глобализация русского языка и ее отражение в русских номинациях напитков», Райко Лассончика (Веймар, Германия) «Авторы-женщины в немецкой литературе» и др.

В разделе «Межкультурная коммуникация» представлены искания ученых в области национального менталитета, национальной лингвокультуры, трудностей перевода, межкультурной компетенции как основы профессиональной компетентности специалиста и т. п.

В своем докладе «Национальный менталитет и проблемы межкультурной коммуникации в "Сибирских образках" Максима Горецкого» Р.К. Козловский (Гродно) предлагает взглянуть на менталитет белорусского народа сквозь призму его культурной традиции, его художественной литературы, которая отображает

реалии материальной и духовной жизни нации в разные периоды ее существования.

Вопросу национальной культуры и способам ее отображения в языке посвящены также доклады Н.П. Могиленских и Ю.А. Дроздовской (Минск) «Культурный империализм в ландшафте города Минска», А.А. Кирюшкиной (Гомель) «Лингвокультурная специфика концептов эмоций», Р. Ковальчука (Белосток) «Regionalna tożsamość językowa w krajach Europy środkowowschodniej» и др.

Перевод и его роль в межкультурной коммуникации стал объектом исследования в статьях О.И. Гутар (Гродно) «Стихотворение Э. Дикинсон Hope is the thing with feathers в переводах Е. Таболич и И. Мизрахи», С.Н. Колоцей и С.И. Сокоревой (Гомель) «Трудности перевода фразеологических единиц», Т.В. Протопоповой (Гомель) «Проблемы потери экспрессивности при переводе новеллы Л. Франка "Военные калеки"» и др.

Вопросы взаимодействия и взаимовлияния языка и культуры составили основу раздела «Национальные языки и культуры во взаимодействии». Большая часть представленных здесь докладчиков обратилась к разным аспектам изучения фразеологизмов как неотъемлемого элемента культуры, хранящих «следы» национальной истории и элементы материальной культуры: С.В. Адамович (Гродно) «Фразеологизмы в системе средств выражения аппроксимации», Е.И. Шандар (Гродно) «Своеобразие семантики фразеологизмов для выражения негативной оценочности в англоязычных медиатекстах», Н.А. Лицкевич (Гродно) «Лингвокультурная специфика фразеологизмов», Т. П. Бочкар (Гродно) «Метафарычныя асацыятыўныя сувязі паміж варыянтнымі лексічнымі кампанентамі фразеалагізмаў беларускай і англійскай моў».

В этом разделе представлен также ряд докладов сопоставительного характера О.М. Кульнис (Гродно) «Функцыянальна-сацыяльныя асаблівасці беларускай і нямецкай нацыянальных моў», Ю.М. Лисовская (Гродно) «Бинарная оппозиция природа — человек в ранних английских и белорусских поэтических произведениях» и др.

Дидактика и методика преподавания нашли свое отражение в докладах, объединенных в раздел «Культурологический подход к преподаванию языка и культуры». Здесь представлены как общие, так и частные вопросы преподавания иностранных языков.

З. Трацыгер (Белосток) в своей статье «Nauczanie języków obcych w zreformowanej polskiej szkole w świetle europejskiego systemu opisu kształcenia językowego» поднимает проблему приведения системы преподавания иностранного языка в Польше в соот-

ветствие с европейскими требованиями и трудностей, с которыми польские коллеги столкнулись в процессе реформирования школы.

В докладе А.А. Бидной, И.Б. Кравчук (Гродно) «Неолатинистика: Проблемы и перспективы развития в Беларуси» освещены перспективы и возможности этой новой для белорусской науки о языке области гуманитарного знания. В то время как в соседней Польше активно ведется разработка проблем неолатинистики региона Центральной и Восточной Европы, подобного рода проблемно-исследовательское поле практически не задействовано в Беларуси, латиноязычные памятники которой еще мало или даже почти не включены в научный оборот.

Основу же данного раздела составили доклады, посвященные частным вопросам преподавания иностранных языков в современном вузе, при этом особое внимание уделяется формированию социокультурной компетенции учащихся: Ж.И. Дронская (Минск) «О формировании социокультурной и коммуникативной компетенции студентов негуманитарных специальностей», Ж.Е. Салита «Роль социокультурного подхода в обучении иностранному языку и иноязычной культуре», В.Г. Новик «Развитие социокультурной компетенции студентов при обучении иностранному языку» и др.

Отдельно следует отметить доклад Дж. Хаканссона (Гётенбург, Швеция) «English as a key to European educational standards», в котором автор подробно останавливается на возможностях английского языка как средства международного общения и на тех преимуществах, которые дает владение английским в международном образовательном пространстве.

Лингвокультурологический аспект языковых исследований уже неоднократно становился и, безусловно, еще не раз станет поводом для научных встреч самого разного уровня. Хочется надеяться, что одной из таких встреч станет очередная конференция в Гродно.

# ЗМЕСТ

